ISSN 0320-7544

# Беларусь

11/95



## "Метафарычны, як проза паэта,— наскрозь!"

Так вызначыла паэтэса Любоў Турбіна новы спектакль Нацыянальнага балета Беларусі. Яе нататкі з нагоды прэм'еры чытайце на стар.28–32.

На гэтых здымках— партрэт аўтара лібрэта і балетмайстра-пастаноўшчыка спектакля "Страсці"/"Рагнеда"/ Валянціна Елізар'ева і сцэна з яго новай работы.

# БЕЛАРУСКАМУ



● Праграму "Ад шчырага сэрца" вядуць Лілія Пількевіч і Аляксандр Падабед.

● Ідзе запіс музычнай праграмы па пісьмах слухачоў "Ад шчырага сэрца".

● Фанатэкар Дома радыё Таццяна Бахар прымае на захоўванне сутачны аб'ём запісаў радыёперадач.







# РАДЫЁ — 70









● Намеснік старшыні Белтэлерадыёкампаніі Уладзімір Ядранцаў.

● "Юны слухач".

● Лідзія Клімковіч — радыёспецыяліст цэнтральнай апаратнай.

Фота Віктара ЖЫЛІНА.

**Звычайна, калі мы гаворым пра гісторыю кіно, называем пры гэтым любімыя папулярныя фільмы. Пройдзены шлях тэатра пазначаем хутчэй за ўсё знакамітымі пастаноўкамі на яго сцэне. Што да гісторыі радыё, якое сёння ці не ў кожным доме, офісе, кабінеце, дык тут, мабыць, візітнаю карткаю становяцца перадачы, якія запомніліся мільёнам слухачоў.**
**Сёлета, пад час 70-гадовага юбілею Беларускага радыёвяшчання, можна беспамылкова ўзгадаць як адну з самых, бадай, паважных, што датычыць узросту, самых папулярных, што датычыць аўдыторыі, і самых, так бы мовіць, пераломных, што датычыць светапогляду, перадачу — радыёчасопіс "Для веруючых і няверуючых". Нарадзілася перадача 20 сакавіка 1962 года і да сённяшняга дня (праўда, пад іншай назвай) яе месца ў эфіры застаецца незанятым. Яна збірала водгукі-лісты не адно з усіх куточкаў Беларусі. Ішлі яны таксама з Літвы, Латвіі, Эстоніі, суседніх абласцей Расіі, Украіны, з Польшчы і Германіі, нават з Фінляндыі. А своеасаблівы рэкорд, як сведчаць яе стваральнікі, пабіў радыст тральшчыка, які даслаў тэлеграму ажно з Паўночнага мора. Няцяжка ўявіць аўдыторыю радыёчасопіса.**
**На скрыжаванні людскіх думак, перакананняў, поглядаў заўсёды быў аўтар і вядучы перадачы журналіст Юрый Ермалюк. Паслухаем ягоны расказ.**

# «РЫХТУЮЧЫ АТЭІСТЫЧНЫЯ ПЕРАДАЧЫ, НЯРЭДКА ЎСПАМІНАЎ ЖУДАСНУЮ ДАТУ — 1937 ГОД — І ЯГО АХВЯРУ — МАЙГО ДЗЕДА-СВЯТАРА»

Дом радыё быў тады не на Чырвонай, 4, як цяпер, а на Рэвалюцыйнай, 3, у будынку даваеннай забудовы. Дарэчы, хто не ведае, там было радыё і ў часе вайны, толькі не беларускае. Пра гэта сведчаць штампы нямецкай цэнзуры на бібліятэчных кнігах і нотах, выпушчаных да фашысцкай акупацыі.

Гэта быў студзень 1962 года. Менавіта той час, калі я ўліўся ў радыёкалектыў, пачаў працаваць у аддзеле прапаганды. Мяне ўразілі дзве акалічнасці. Калектыў — "вельмі жаночы" (да гэтага я працаваў у газеце, дзе рэй вялі пераважна мужчыны). Падругое, хутка высветлілася, што перадачы робіцца ў асноўным для аддзела прапаганды ЦК КПБ, радыёслухач пры гэтым у разлік не браўся.

Што мог узяць на сябе беспартыйны журналіст у самым партыйным ды самым ідэалагічным аддзеле? "Будзеце рыхтаваць атэістычныя перадачы", — сказала мне загадчык аддзела, затым галоўны рэдактар Тамара Якута, сёння, на жаль, нябожчык. Божухна, пасля колькіх іменаў трэба рабіць гэтую гарачую рэпліку!..

Папкі з папярэднімі атэістычнымі перадачамі былі амаль пустыя. Заўважыў, што ладзіліся выпускі рэдка і чамусьці называліся гутаркамі, хоць на справе гэта былі маналогі атэістаў з навуковымі ступенямі. Дзіўна: тэрмін "навуковы атэізм" існаваў, а дактароў атэістычных навук не было.

Перадачы мала чым розніліся. Бэсцілі рэлігію, дазвалялі абражальна казаць пра вернікаў. Што думаюць пра гэтыя выпускі радыёслухачы? У папцы з лістамі-водгукамі быў толькі адзін ліст за ўвесь год. Няўжо таму, што перадачы ніхто не слухае?

Вырашыў параіцца. Напісаў ліст Аляксандру Осіпаву, былому прафесару Ленінградскіх духоўных школ — семінарыі і акадэміі, які напісаў у "Правде", што парывае з рэлігіяй і царквою. Хутка атрымаў адказ: не лічыце вернікаў непаўнацэннымі людзьмі, а рэлігію — чымсьці ганебным. І ніколі не абвяшчайце, што ў эфір ідзе атэістычная перадача, гэта не спадабаецца веруючым слухачам.

Парады прыдаліся. Я вырашыў рабіць не гутаркі, а перадачу-часопіс, дзе былі б і нарысы, і выступленні, і рэпартажы, і іншыя жанры.

Першы выпуск перасягнуў мае чаканні. Праз тыдзень мой стол быў завалены лістамі, галоўным чынам ад вернікаў. Яны былі здзіўлены, што з імі загаварылі як з роўнымі: не ганьбяць, не абражаюць, рэлігію не называюць падманам альбо цемрашальствам, не паўтараюць праз кожныя дзве фразы, што Бога няма... Вядома, галоўная заслуга тут належала Осіпаву. Я дасылаў яму тоўстыя пачкі лістоў і атрымліваў з Ленінграда запісаныя на Ленінградскім радыё магнітныя стужкі. Чалавека з такімі энцыклапедычнымі ведамі, такой эрудыцыяй, з такім аратарскім дарам я яшчэ не сустракаў. У 1967 годзе яго не стала, але часопіс працягваў паўтараць яго вычарпальныя адказы на шматлікія лісты. Вакол перадачы сабралася група атэістаў, якія здолелі адмовіцца ад ранейшага стылю. Перадача мела поспех, выклікала ў слухачоў жывы водгук.

І цяпер я атрымліваю добрую пошту. Але шмат хто мяне папракае: "Раней вы выступалі супраць рэлігіі, а цяпер яе прапагандуеце. Ці можна вам верыць?!" Сапраўды, светапогляд аўтара перадачы, гэта значыць мой, як і ўвогуле перадачы на радыё, прыкметна змяніліся. Неадночы спрабаваў вытлумачыць слухачам гэтую калізію, аднак пытанні з дакорам ідуць па сёння. Тым не менш, у рэйтынгавых даследаваннях перадача нязменна трапляла ў першую дзесятку, а сярод грамадска-палітычных была заўсёды першай.

І ўсё ж мяне, журналіста і вядучага, не адпускае пытанне-дакор. Голас слухача надзвычай выразны: ці не прыстасаваўся я? Але тут жа нібыта супакойваю сябе, суцяшаючы: значыць прыстасавалася ўсё наша грамадства. Паглядзіце, колькі храмаў адкрываецца, якія дзяржаўныя мужы ходзяць у царкву на Раство Хрыстова ці Вялікдзень, колькі рэлігійнай літаратуры выдаецца, хто сустракаў свяцейшага патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі пад час двух яго візітаў у нашу рэспубліку... Урэшце, ці было нам вядома тое, што ведаем сёння з крыніц, якія хаваліся пад замкамі цэнзуры? Напрыклад, сакрэтнае пісьмо Леніна, у якім ён заклікаў сваіх паплечнікаў няшчадна караць святароў і вернікаў?

Нарэшце, быў ідэалагічны прэс аддзела прапаганды. Пад настойлівым прымусам даводзілася нярэдка рабіць тое, што супярэчыла прафесійнаму пачуццю меры. Пачаў у кожным выпуску выкарыстоўваць радкі з чытацкай пошты, накшталт завочнай спрэчкі — мяне тут жа папраўлялі: пасля кожнае фразы верніка трэба даваць водпаведзь аўтару ліста. Вырашыў дапамагчы тым, хто не ведаў свайго дня нараджэння. Было вядома, напрыклад, што нарадзіўся чалавек за два тыдні да Вялікадня ў 1943 годзе, але дата забылася. Мяне зноў жа папярэдзілі: нельга прапагандаваць рэлігійныя святы. Добра, што тадышні старшыня Генадзь Бураўкін абараніў мяне; адказы на пытанні пра дзень нараджэння і цяпер даюцца штомесяц, выклікаючы новыя і новыя запыты.

І ўсё ж, хоць ініцыятыва вядучага часта праследавалася і каралася ідэалагічным цэнтрам, працаваць над кожным новым выпускам было надзвычай цікава. Чытаў атэістычныя выданні, знаходзіў новыя і новыя доказы хісткасці атэістычных пазіцый, зададзенасці іх аўтараў, часам беспардоннага перапісвання адзін у аднаго, скажэння цытат класікаў марксізму. Амаль усе да аднаго сцвярджалі, што Маркс назваў рэлігію "опіумам для народа". А на самай справе ён пісаў пра рэлігію як пра "опіум народа", гэта значыць болесуцішальны сродак, нават лякарства.

Ці мог я застацца ранейшым?.. Бадай, самае вялікае ўзрушэнне чакала мяне, калі на пачатку перабудовы я вырашыў нарэшце высветліць лёс майго дзеда па маці — праваслаўнага святара айца Мікалая, які згінуў назаўсёды ў 1937 годзе. Яго бацькі, дзяды, браты таксама былі святарамі — дынастыя. У нашай сям'і пра яго нічога не ведалі, хіба што згадвалі тую жудасную дату. Пачалася перапіска з пракуратурай і КДБ. І вось аб чым я дазнаўся. У 1932 годзе дзеда вывезлі на тры гады ў Комі АССР, а ў чэрвені 1937-га арыштавалі зноў і ў жніўні расстралялі. Падрабязнасці даліся мне з вялікай цяжкасцю, усё ж удалося выцягнуць з гэтых структур сякую-такую праўду: так, падвяргаўся фізічным метадам допыту; так, у яго былі канфіскаваны раса, падраснік, нагрудны крыж; так, месца пахавання невядомае. Прыслалі фатаграфію дзеда — змучаны стары з упартым позіркам, а заадно пасведчанне аб смерці без указання акалічнасцяў.

Яшчэ раз задаю сабе тое ж пытанне: ці мог я заставацца ранейшым?..

А перадача жыве. Яе ведаюць і слухаюць, дасылаюць водгукі, выказваюць пажаданні. Мне прыемна, што поруч са мной над "маёй фірменнай" перадачай пачала працаваць маладая журналістка Наталля Баўкалава. Перад шматлюднай радыёаўдыторыяй выступаюць вернікі і святары розных канфесій, гучыць рэлігійная музыка, выпускі робяцца больш адкрытымі, велічна раскаванымі. За 33 гады назва часопіса двойчы мянялася. Цяпер яна мае назву "Дабравесце". Мне — вельмі падабаецца, я жадаю перадачы доўгага жыцця і росквіту.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ**

# КАБ НЕ ЗАБЫВАЛАСЯ СЛОВА



● **Запіс у студыі радыёклуба "Жывое слова". Злева направа: аўтар перадачы пісьменнік Уладзімір Юрэвіч — вядомы дыктар Беларускага радыё, вядучыя Валянціна Кернажыцкая і Канстанцін Сафроненка.**

Гэта было трыццаць з лішкам гадоў таму назад, калі я парадкам ужо напрацаваўся і прыйшоў да высновы, што мову, на якой з намі размаўляюць радыё і тэлебачанне, нельга прызнаць узорнай, пасапраўднаму жывой, гаваркой. Такой яна павінна быць у адрозненне ад друкаванай. Пакуль жа яна нейкая закілзаная чыноўніцкімі абрэвіятурамі і не толькі нецікавая, але і непісьменная ў гутарковай плыні. Колькі ж можна так раўнадушна, абыякава карыстацца словам, не задумвацца над яго найбагатшымі скарбамі, над яго незлічонымі пакладамі ў слоўніках і ў літаратуры! Менавіта тады, у сярэдзіне 60-х гадоў нарадзілася ў мяне прапанова стварыць радыёклуб "Жывое слова", каб даваць школьнікам прыгожае, багатае, дакладнае, выразнае роднае беларускае слова як матэрыял і інструмент для іх штодзённага занятку дома, у школе, у любым асяроддзі, а яшчэ — для творчасці.

Прапанова была прынята ў Галоўнай рэдакцыі перадач для дзяцей і юнацтва, тагачасным галоўным рэдактарам Валянцінай Шапавалавай. І перадачы радыёклуба "Жывое слова" загучалі — адзін раз на месяц, па пятніцах, з абавязковым паўтарэннем назаўтра, раніцай, каб патрапіць як мага шырэйшаму колу радыёслухачоў. І ведаеце, мы не памыліліся. Ужо на першы выпуск перадачы атрымалі багатую пошту. І з кожным новым выхадам у эфір пошта станавілася багацейшай ды багацейшай. Бывала па 150 — 200 лістоў прыходзіла водгукам на нашы радыёсустрэчы.

Тагачасныя школьнікі адчулі, што гэтыя перадачы — не проста паўтарэнне таго курса беларускай мовы, які традыцыйна праходзяць дзеці ў школе. Я намагаўся знаёміць слухачоў радыёклуба з тым, што заставалася па-за падручнікам і па-за школай наогул, раскрываць невычэрпныя магчымасці гэтага слова як сродку дачыненняў людзей, як матэрыялу і інструменту пісьменнікаў, мастакоў слова. Выпікала адразу неабходнасць завесці такія раздзелы, як "пытайцеся — адказваем" і "творчасць нашых сяброў". У першым з іх мы адкрывалі глыбінную сутнасць слова, яго этымалогію, тлумачылі паходжанне, утварэнне самых звычайных, якія штодзень з намі, слоў. Імя, прозвішча, "маленькая" радзіма — усё гэта прываблівала шырокую аўдыторыю слухачоў.

Перадачы на першым часе існавання радыёклуба я вёў з дапамогай вучняў мінскіх школ, але выбіраць сярод іх такіх, у якіх было б узорнае вымаўленне, дакладная артыкуляцыя ўсіх гукаў, багатыя інтанацыйныя магчымасці голасу станавілася ўсё цяжэй і цяжэй. Сярод гарадскіх школьнікаў мала было такіх, у якіх адчувалася б дакладнае валоданне вусным словам. Прычынай гэтага стала паступовае аслабленне ўвагі да выкладання беларускай мовы і літаратуры ў сталічных агульнаадукацыйных школах. Родная мова як бы выносілася за дужкі абавязковай школьнай праграмы, у кожным разе ўвагі да беларускай мовы і, наогул, беларускасці паменшала. А папулярнасць нашага радыёклуба "Жывое слова" станавілася ўсё шырэйшай, прыходзілі пісьмы ад беларускіх дзяцей з Украіны, Браншчыны, Смаленшчыны, з Латвіі, Літвы, неабходнасць лінгвістычнага радыёклуба станавілася бясспрэчнай.

І менавіта такім, моваззнаўчым накірункам мы ішлі: уводзілі ў 20-хвілінную перадачу ўсё новыя і новыя старонкі. Шырэй загучалі вершы, карацелькі-абразкі, дасланыя слухачамі.

Кола ўдзельнікаў няспынна расло, бо для ўдзелу патрэбна было мець некалькі капеек, каб набыць на пошце марку і адправіць ліст з беларускімі прыказкамі і загадкамі для заўсёднага раздзела "Хвіліны забавы". Ішло адкрыццё невычэрпных абсягаў і магчымасцей беларускага слова, і гэтая акалічнасць вымагала прыдумваць усё новыя захады, каб агеньчык беларускасці не гаснуў. І ён сапраўды разгараўся.

Цяпер мне радасна сустракацца з дарослымі сваімі выхаванцамі, якія паканчалі універсітэт і вядуць свой рэй у літаратуры ды журналістыцы — Алесь Бадак, Уладзімір Мазго, Валянціна Запекіна, Вольга Савасцюк, Леанід Пранчак, Вольга Дзяткова... Дададзім сюды такіх пісьменнікаў, якія працавалі ў рэдакцыі дзіцячых перадач на радыё ў 60-я — 70-я гады, як Генадзь Пашкоў, Уладзімір Машкоў, Уладзімір Аніскевіч... Ды ці ўспомніш усіх, хто прысвяціў сваё жыццё служэнню роднаму слову, чые кнігі выдаюцца тысячнымі тыражамі, чые імёны сустракаюцца на старонках друкаваных перыядычных выданняў, чыё слова высокай культуры ўсцешвае радыёслухачоў і тэлегледачоў, бо гучыць з вуснаў былых удзельнікаў радыёклуба, яго супрацоўнікаў.

Да работы "Жывога слова" далучаліся не толькі вучні, а і настаўнікі, не толькі дзеці, але і юнакі, дарослыя слухачы. Пісалі, як у "кансультацыйны цэнтр", намагаючыся высветліць вытокі свайго радаводу, цікавыя, галоўным чынам, паходжаннем таго ці іншага слова-тэрміна або крылатага выразу. Зараз паменшала цікаўнасць, а паменшала яна з-за нашай агульнай беднасці і неўладкаванасці. Само сабой павіс "замок" на варотах, што вядуць у глыбейшую дасведчанасць пра слова.

А між тым слоўнік штодзённасці нашай бяднее, мастацкую літаратуру чытаюць усё менш і менш, нават тэлефонныя сувязі скарачаюцца да мінімуму — за ўсё трэба плаціць, бо дзяржава з бедным бюджэтам не можа забяспечыць удосталь надзённыя патрэбы чалавека ў жывым слове, у абыходку штодзённым. З'яўленне цэлых пластоў камерцыйнай лексікі, засмечанай без патрэбы чужаземнай мовай, вымагае ад сродкаў масавай інфармацыі новых захадаў па выхаванню высокай культуры міжабласных адносін людзей, каб не ператварыцца ў маўклівую масу.

Шматгадовае карыстанне словам у выключных, скажам, нават экстрэмальных сітуацыях, калі яно фармуецца на хаду, як гутарковае, размоўнае, вымагае куды большай унутранай гатоўнасці чалавека выконваць гэтую складаную псіхалагічную задачу. Перагружанасць школьных праграм не дазваляе настаўніку адводзіць шмат часу для выхавання ў кожным вучні культуры жывога слова. А час, штодзённасць вымагае ад чалавека валодаць усё шырэйшым і шырэйшым актыўным слоўнікам не толькі ў службовых дачыненнях людзей, але і ў багатай лексіцы, бо вельмі шырокаабсяжнай становіцца інфармацыя, якую вымушаны чалавек "пераварваць" імгненна і пісьменна.

Ісці своечасова на дапамогу надзённым патрэбам чалавека любога ўзросту, які слухае ці глядзіць радыётэлеперадачы, патрабуе вышэйшай культуры слова, чым яна пакуль што бытуе ў сродках масавай інфармацыі. Беларуская лексіка вымушана пашырацца як за кошт самабытнасці, так і запазычанняў з іншых моў, асабліва, калі яны "далёкія" ад гістарычных умоў існавання і ўзбагачэння выяўленых сродкаў.

Скажам, ёсць у нас такія дакладныя словы, як **апякун**, **апека** старэйшага над малодшым, багацейшага над збяднелым. Мы вымушаны зараз вярнуцца да іх, імення да іх, **сваіх**, а не да чужамоўнага спонсар, спонсарства. Дык жа не! Роднае адкідаецца, а напракат бярэцца незразумелае, англійскае, не такое ўжо і мілагучнае, і не надта выразнае. Гэта — зацемка ў

*(Заканчэнне на стар. 16.)*

# ШЛЯХАМ ЧАЛАВЕЧАГА РАЗВІЦЦЯ

Акадэмік Генадзь ЛЫЧ

**Жыхарам краіны павінен быць адкрыты доступ да поўнай інфармацыі пра рэальны стан навакольнага асяроддзя, дадзена права патрабаваць справаздачу пра вынікі дзейнасці ад любой дзяржаўнай арганізацыі, адказнай за экалагічную сітуацыю ў краіне альбо ў асобным рэгіёне.**

## 4 ЭКАЛАГІЧНАЯ БЯСПЕКА І ЗДАРОЎЕ ЛЮДЗЕЙ

ІНТЭНСІЎНАЕ развіццё нафтаперапрацоўкі, хіміі і нафтахіміі, прамысловасці будматэрыялаў, металургіі і машынабудавання мелі неадназначнае значэнне для чалавечага развіцця Беларусі. Яно не толькі вяло да няўхільнага нарошчвання навукова-тэхнічнага патэнцыялу, павелічэння даходаў дзяржавы і яе грамадзян, але і адмоўна адбівалася на навакольным асяроддзі, бо, як вядома, усе гэтыя вытворчасці характарызуюцца найбольш значнымі выкідамі шкодных рэчываў. Паступова на Беларусі склалася даволі неспрыяльная экалагічная сітуацыя, якая ў шэрагу раёнаў уяўляе сабой рэальную пагрозу для здароўя і жыцця людзей.

Па звестках дзяржаўнай статыстыкі, агульныя выкіды шкодных рэчываў у паветраны басейн рэспублікі ў 1993 годзе склалі 2,3 млн. тон. Асабліва неспрыяльнае становішча назіраецца ў буйных прамысловых цэнтрах. У прыватнасці, у Бабруйску, Полацку, Салігорску і Магілёве на аднаго жыхара ў год прыходзіцца ад 130 да 140 кілаграмаў шкодных дамешак, а ў Наваполацку — больш за тону. У сярэднім жа па Беларусі кожны другі гарадскі жыхар зведвае негатыўнае ўздзеянне шкодных рэчываў, канцэнтрацыя якіх у паветры перавышае гранічна дапушчальны ўзровень у 5 разоў.

Усё большую трывогу выклікае стан водных рэсурсаў. Як сведчыць Міністэрства статыстыкі і аналізу, агульны аб'ём сцёкавай вады, скінутай у вадаёмы, у 1993 годзе склаў 111 млн. кубічных метраў. Пад нарастаючым уплывам антрапагеннага ўздзеяння практычна ўсюды мае месца пагаршэнне якасці вод, прытым не толькі паверхневых, але і падземных. Істотна павялічваецца ступень іх мінералізацыі. Усё больш нітратаў, сульфатаў і хларыдаў. Перыядычна адзначаецца наяўнасць злучэнняў, што ўтрымліваюць азот, фасфаты, пестыцыды, медзь.

Забруджванне падземных вод, што залягаюць неглыбока, асабліва небяспечнае для здароўя людзей, якія не маюць магчымасці карыстацца цэнтралізаваным водазабеспячэннем і вымушаны браць ваду для піцця і прыгатавання ежы з традыцыйных вясковых калодзежаў. Хоць якасць вады ў іх і рэгламентуецца санітарнымі нормамі, аднак вельмі часта не адпавядае патрабаванням стандартаў. У сярэднім па рэспубліцы доля неглыбокіх калодзежаў з няякаснай вадой складае звыш 45 працэнтаў, а асобна па Віцебскай вобласці — 80. Бактэрыяльных норм забруджвання не вытрымліваюць больш як 35 працэнтаў ад агульнай колькасці калодзежаў.

Дагэтуль застаецца нявырашанай і праблема прамысловых адходаў. Па стану на 1 студзеня 1994 года іх у рэспубліцы назапасілася 585,6 млн. тон. У дадатак штогодна звозяць на звалкі больш за 12 млн. кубічных метраў гарадскіх адходаў. Падобна на тое, што, калі не будуць прыняты адпаведныя захады, мы хутка пахаваем сябе пад імі.

Экалагічнае становішча Беларусі, як вядома, катастрофічна пагоршылася ў выніку чарнобыльскай катастрофы. Наша краіна прыняла на сябе яе асноўны ўдар. Каля 70 працэнтаў радыеактыўных рэчываў, што трапілі ў атмасферу, выпалі на беларускую зямлю. Пятая частка тэрыторыі рэспублікі, на якой пражывала 2,1 млн. чалавек, апынулася ў зоне радыеактыўнага ўздзеяння. З іх толькі крыху больш за 130 тысяч чалавек перасялены ў так званыя "чыстыя" раёны.

**Высокая ступень забруджанасці навакольнага асяроддзя, у тым ліку радыенуклідамі, стала адным з найбольш істотных фактараў, якія негатыўна ўплываюць на здароўе людзей. На думку беларускіх медыкаў, на яго долю прыпадае 15 — 20 працэнтаў ад агульнай колькасці захворванняў.** Яшчэ большая ступень залежнасці захворвання ад забруджвання атмасфернага паветра асобна органаў дыхання — 37 працэнтаў. Таму не выпадкова часцей за ўсё хварэюць бранхіяльнай астмай менавіта ў Наваполацку, дзе, як было адзначана раней, самае высокае сярод усіх гарадоў Беларусі забруджванне атмасфернага паветра шкоднымі дамешкамі. Толькі за апошнія пяць гадоў агульная колькасць захворванняў верхніх дыхальных шляхоў жыхароў гэтага горада ўзрасла ў 1,5 раза.

Здароўю сельскага насельніцтва, як ужо зважалася, істотна шкодзіць бактэрыяльнае і хімічнае забруджванне падземных водных крыніц. Медыкі сцвярджаюць, што менавіта вада з неглыбокіх калодзежаў і артэзіянскіх свідравін, атручаная нітратамі і пестыцыдамі, з'яўляецца сёння галоўнай прычынай шматлікіх захворванняў страўнікава-кішачнага тракта сельскіх жыхароў, а таксама метгемаглабінеміі ў нованароджаных.

Хранічнае камбінаванае ўздзеянне хімічных рэчываў і радыенуклідаў выклікае сур'ёзныя змены ў імуннай, стрававальнай і іншых сістэмах, што спрыяе шырокаму распаўсюджванню розных захворванняў. Напрыклад, у Гомельскай вобласці, найбольш пацярпеўшай ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, выяўлена істотнае павелічэнне захворванняў ракам шчытападобнай залозы, мачавога пузыра і нырак, пухлінамі касцей, лімфарэтыкуласаркомай. Калі ў даварыйныя гады тут рэгістраваліся адзінкавыя выпадкі захворвання дзяцей ракам шчытападобнай залозы, то ў 1986 — 1992 гадах іх было выяўлена 172.

Асаблівыя турботы выклікаюць магчымыя генетычныя вынікі чарнобыльскай катастрофы. Як паказалі даследаванні беларускіх і замежных вучоных-медыкаў, узровень мутацый (змяненняў спадчынных структур) за пасляаварыйны перыяд у раёнах, забруджаных радыенуклідамі, значна павялічыўся. Так, па звестках Міністэрства аховы здароўя, за 1987 — 1992 гады колькасць прыроджаных недахопаў у зонах са шчыльнасцю забруджвання па цэзію-137 ад 1 да 5 Кu/км$^2$ павялічылася на 30 працэнтаў, а ў зонах са шчыльнасцю забруджвання 15 Кu/км$^2$ і болей — на 83, тады як у зонах кантролю — толькі на 24 працэнты.

Апынуўшыся практычна сам-насам з вынікамі чарнобыльскай бяды, Беларусь зазнала вялікія цяжкасці з іх пераадоленнем. Узнікла істотнае адставанне ў развіцці сеткі аб'ектаў аховы здароўя. Па-ранейшаму не хапае дактароў, сярэдняга медыцынскага персаналу і фармацэўтычных работнікаў. У той жа Гомельскай вобласці на кожныя 10 тысяч жыхароў ёсць толькі па 34 дактары (у зоне забруджван ня радыенуклідамі ад 15 да 40 Кu/км$^2$ яшчэ менш — па 23). А павінна быць сама меней 53.

Побач з іншымі прычынамі гэта спарадзіла шэраг дэструкцыйных тэндэнцый у жыццядзейнасці людзей, якія паспыталі на сабе радыеактыўнае ўздзеянне. Паглыбляецца іх незадаволенасць умовамі працы, побыту, адпачынку, аховы здароўя, навучання і выхавання дзяцей.

Па звестках спецыяльных навуковых даследаванняў Інстытута сацыялогіі АН Беларусі, **у значнай частцы насельніцтва раёнаў радыеактыўнага забруджвання сфарміраваўся своеасаблівы, досыць устойлівы сацыяльна-радыёэкалагічны стрэс, які даў падставы для некалькіх самых розных відаў адаптацыйных сіндромаў.** Сярод іх найбольш распаўсюджаныя:

а) павышаная саматызацыя тры-

вожных чаканняў ("уцёкі ў хваробу");

б) абясцэньванне патрэб і бязвольнае прывыканне да экстрэмальных умоў існавання з рэдукцыяй дынамічна актыўнага патэнцыялу асобы да псіхалагічнага стану ахвяры (сацыяльна-псіхалагічная апатыя);

в) фіксацыя сацыяльна-псіхалагічнага стану на перажываннях, якія траўміруюць псіхіку чалавека.

Сёння прыкладна дзве трэці людзей, што жывуць у забруджаных раёнах, адмаўляюцца ад перасялення. Немалымі ўскладненнямі суправаджаецца і адаптацыя перасяленцаў да ўмоў жыцця на новым месцы. Так, больш адной трэці з 400 апытаных сямей сцвярджаюць, што наогул не змаглі прыстасавацца да новых умоў.

Асноўнай дамінантай трывожных пачуццяў насельніцтва ў радыяцыйна забруджаных раёнах застаецца заклапочанасць станам свайго здароўя. Цяпер яна характэрная для 64 працэнтаў рэспандэнтаў, павялічыўшыся ў параўнанні з 1993 і 1989 гадамі адпаведна на 2 і 8,5 працэнта.

Усё больш прыкметна ўзмацняецца трывога з нагоды зніжэння грамадскага інтарэсу да чарнобыльскай праблемы. Такую думку падзяляе амаль палова апытаных. Адначасова і ў дарослых, і, асабліва, у дзяцей фарміруецца сацыяльна-негатыўнае светаўспрыманне ахвяры, арыентаванай пераважна на дапамогу звонку, перш за ўсё з боку дзяржавы.

**У такіх умовах кардынальнае аздараўленне асяроддзя пражывання з'яўляецца першаасновай бяспекі чалавека. Таму яно павінна стаць адной з найгалоўнейшых мэт дзяржаўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь у галіне чалавечага развіцця на бліжэйшы перыяд.**

Сур'ёзнай стратэгічнай памылкай дзяржаўнай эканамічнай палітыкі нашага ўрада да нядаўняга мінулага было засяроджванне намаганняў на рэгламентацыі пытанняў аховы прыроды. Барацьба вялася фактычна з вынікамі, а не з прычынамі разбурэння прыроды і забруджвання навакольнага асяроддзя.

З тым, каб забяспечыць паслядоўнае паляпшэнне экалагічнай сітуацыі, асноўны акцэнт павінен быць перанесены на прадухіленне і максімальнае абмежаванне адмоўнага ўплыву на навакольнае асяроддзе гаспадарчай дзейнасці. **Размова, па сутнасці, ідзе аб спалучэнні палітычных захадаў, якія прадугледжваюць ліквідацыю і нейтралізацыю шкодных адходаў вытворчасці, з кардынальнымі намаганнямі, накіраванымі на прадухіленне забруджвання навакольнага асяроддзя, урэшце — аб пераходзе ад прынцыпу рэагавання і выпраўлення да прынцыпу прадбачання і прадухілення.**

Выходзячы з гэтага, галоўнымі прыярытэтамі дзяржаўнай экалагічнай палітыкі на бліжэйшую перспектыву павінны стаць:

паслядоўная экалагізацыя ўсіх відаў вытворчасці шляхам рэсурсазберажэння, паэтапнага пераводу прамысловасці на малаадходныя працэсы і комплексныя безадходныя вытворчасці;

распрацоўка і ўвядзенне ў дзеянне гаспадарчага механізма рацыянальнага прыродакарыстання, заснаванага на прымяненні платы за выкарыстанне прыродных рэсурсаў і забруджванне навакольнага асяроддзя;

забеспячэнне экалагічнага абгрунтавання размяшчэння і далейшага развіцця прадукцыйных сіл з улікам экалагічнай ёмістасці і нагрузкі, правядзення незалежнай экалагічнай экспертызы праектаў будаўніцтва новых, пашырэння і рэканструкцыі існуючых народнагаспадарчых аб'ектаў;

кардынальнае павышэнне экалагічнай бяспекі народнагаспадарчых аб'ектаў і комплексаў, новай тэхнікі, тэхналогій і матэрыялаў, прадухіленне аварыйных сітуацый, якія вядуць да рэзкага пагаршэння экалагічнай сітуацыі і ствараюць пагрозу для здароўя і жыцця людзей;

стварэнне надзейнай сістэмы маніторынгу.

Важная роля ў аздараўленні навакольнага асяроддзя належыць структурнай перабудове вытворчасці і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці. Бо, як сведчыць вопыт, калі дзяржава з'яўляецца ўласнікам сродкаў вытворчасці, а значыць, вытворцам і асноўным забруджвальнікам прыроды, нерэальна чакаць жаданага парадку ў экалогіі. Ды і самі мясцовыя жыхары, не з'яўляючыся ўласнікамі, зазвычай паводзяць сябе пасіўна пры вырашэнні шматлікіх пытанняў, што датычаць здароўя іх родных ваколіц.

Не выключана, што ў радзе выпадкаў прыватная ўласнасць сама можа стацца фактарам пагаршэння экалагічнай сітуацыі. Каб такое не здарылася, патрэбны адпаведныя законы, юрыдычная і адміністрацыйная сістэма, якія б строга кантралявалі выкананне абавязацельстваў па ахове прыроднага асяроддзя ўсімі без выключэння суб'ектамі гаспадарання.

**Дзяржаўная самастойнасць Беларусі, пераход да рыначных адносін абумоўліваюць пільную неабходнасць хутчэйшага фарміравання якасна новай нацыянальнай сістэмы прыродакарыстання. Зыходзячы са станоўчага сусветнага вопыту, яна павінна ўключаць:**

прамое рэгуляванне (заканадаўчае абмежаванне негатыўных уздзеянняў на прыроду на аснове прымянення экалагічных нарматываў і стандартаў якасці навакольнага асяроддзя, сертыфікацыя абсталявання, экалагічная экспертыза, дзяржаўны заказ);

эканамічныя рычагі і стымулы (падаткі за выкарыстанне прыродных рэсурсаў, выкіды шкодных рэчываў у атмасфернае паветра і сцёкі ў водныя крыніцы, падаткі за размяшчэнне адходаў, а таксама субсідыі, ільготныя крэдыты, датацыі і інш.);

маральнае ўздзеянне (экалагічная галоснасць, сацыяльны ціск грамадскасці і г.д.).

У першым блоку сістэмы асноўная роля адводзіцца прыродаахоўнаму заканадаўству, якое павінна грунтавацца на новай Канстытуцыі і забяспечваць правы чалавека на здаровае асяроддзе пражывання, а таксама фармуляваць абавязкі ўсіх юрыдычных і фізічных асоб па абароне навакольнага асяроддзя.

Як вядома, 26 лістапада 1992 года быў прыняты і ўведзены ў дзеянне асноватворны Закон аб ахове навакольнага асяроддзя. Ён дае грунтоўную прававую аснову для стварэння прыродных тэрыторый, якія належыць ахоўваць; устанаўлівае кампенсацыю грамадзянам за шкоду, нанесеную асяроддзю іх пражывання ў выніку парушэння экалагічных законаў; дае прававую аснову для маніторынгу і экалагічнай экспертызы; прадугледжвае стварэнне зон надзвычайнага экалагічнага становішча і экалагічнага бедства. Надзвычай актуальна цяпер забяспечыць безумоўнае выкананне прынятых нарматыўна-прававых актаў, чаго нам часцей за ўсё і бракуе.

**З улікам сказанага, ураду неабходна паклапаціцца пра тое, каб максімальна пашырыць рэальныя магчымасці жыхароў краіны ўдзельнічаць у ахове прыроды, у кантролі за станам навакольнага асяроддзя. Для гэтага павінен быць адкрыты доступ да поўнай інфармацыі, павінна быць дадзена права патрабаваць справаздачу пра выніکі дзейнасці ад любой дзяржаўнай арганізацыі, адказнай за экалагічную сітуацыю ў краіне ці ў асобным рэгіёне.**

Роля і месца чалавека ў паляпшэнні экалагічнай сітуацыі патрабуе радыкальнай актывізацыі дзейнасці адпаведных грамадскіх арганізацый. На жаль, іх колькасць у рэспубліцы пакуль вельмі нязначная.

Асобнае месца ва ўсёй прыродаахоўнай дзейнасці Беларусі займаюць буйнамаштабныя мерапрыемствы па пераадоленні негатыўных вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Яны ажыццяўляюцца ў рамках спецыяльнай дзяржаўнай праграмы і накіраваны перш-найперш на аздараўленне і забеспячэнне бясшкодных умоў жыццядзейнасці людзей, а таксама на пераадоленне негатыўных эканамічных і сацыяльна-псіхалагічных вынікаў катастрофы. У прыватнасці, прадугледжана:

зніжэнне дозавых нагрузак на насельніцтва, якое пражывае ў зонах радыеактыўнага забруджання;

удасканаленне медыцынскага абслугоўвання людзей і іх забеспячэння лекавымі прэпаратамі і экалагічна чыстымі прадуктамі харчавання;

выдача льгот і кампенсацый пацярпеўшым ад катастрофы;

арганізацыя і правядзенне радыяцыйна-экалагічнага маніторынгу тэрыторый, забруджаных радыеактыўнымі ападкамі;

забеспячэнне грамадскасці інфармацыяй пра радыяцыйна-экалагічную сітуацыю на тэрыторыях пражывання і звязаныя з ёю медыка-біялагічныя фактары рызыкі.

Доля выдаткаў на ліквідацыю вынікаў чарнобыльскай катастрофы ў дзяржаўным бюджэце ў 1991 годзе склала 16,8 працэнта, у 1992 годзе — 12,6 і ў 1993 годзе — 10,9 працэнта. Прыкладна трэць з іх прыпадае на льготы і кампенсацыі.

**● Калі дзяржава з'яўляецца ўласнікам сродкаў вытворчасці, а значыць, вытворцам прадукцыі і забруджвальнікам прыроды, нерэальна чакаць жаданага парадку ў экалогіі.**

Хоць фінансаванне ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і складае даволі значную частку ўсіх расходаў, яно, безумоўна, далёка не дастатковае, каб забяспечыць своечасовае правядзенне ў поўным аб'ёме ўсіх неабходных для гэтага мерапрыемстваў. Да таго ж сродкі, якія адпускаюцца на ліквідацыю вынікаў катастрофы, не заўсёды выкарыстоўваюцца належным чынам.

Кардынальнае паляпшэнне экалагічнай сітуацыі патрабуе ажыццяўлення і шэрагу іншых мер. Вылучым толькі дзве — неабходнасць адпаведнага выхавання насельніцтва і далейшае пашырэнне міжнароднага супрацоўніцтва нашай краіны ў галіне аховы прыроды.

У Беларусі распрацавана спецыяльная дзяржаўная праграма па адукацыі ў галіне навакольнага асяроддзя. Прадугледжаны канкрэтныя меры па ўвядзенню абавязковых курсаў па асновах экалогіі і аховы навакольнага асяроддзя ва ўсіх сферах адукацыі. У трох ВНУ (Белдзяржуніверсітэце, Беларускім тэхналагічным універсітэце і Брэсцкім політэхнічным інстытуце) распачата падрыхтоўка спецыялістаў-эколагаў вышэйшай кваліфікацыі. У шэрагу ВНУ і тэхнікумаў уведзены абавязковыя вучэбныя курсы экалагічнай накіраванасці.

Што да пашырэння міжнароднага супрацоўніцтва Беларусі ў галіне аховы прыроды, то сярод многіх напрамкаў яго далейшага ўдасканалення асаблівая ўвага павінна быць нададзена:

паляпшэнню каардынацыі дзеянняў пры экалагічных катастрофах трансмежнага характару;

супрацоўніцтву ў галіне экалагічнай адукацыі і навукі;

сумеснай распрацоўцы экалагічных праграм рознага ўзроўню;

абмену прыродаахоўнымі тэхналогіямі і абсталяваннем;

гарманізацыі заканадаўчых і нарматыўных дакументаў, выдачы фінансавай дапамогі і крэдытаў для вырашэння пытанняў аховы навакольнага асяроддзя.

Вельмі важна пры правядзенні мерапрыемстваў па ахове прыроды строга прытрымлівацца патрабаванняў комплекснага падыходу. Ігнараванне любога з іх у цяперашніх умовах Беларусі тоіць сур'ёзную пагрозу для чалавека, асабліва на тэрыторыях, забруджаных радыенуклідамі.

Мэццю КАХАНЭ:

# «НА БЕЛАРУСЬ УСКЛАДАЮЦЦА АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ ЦЫВІЛІЗАВАНАЙ КРАІНЫ Ў ЦЭНТРЫ ЕЎРОПЫ»

**— Спадар Каханэ, Вы былі першы, хто ўзначаліў Беларускае аддзяленне ААН у Мінску. Беларусь, я думаю, з удзячнасцю будзе гэта ўспамінаць. Але перш чым задаць Вам пытанне пра тое, што ўдалося зрабіць за тры мінулыя гады, дазвольце пацікавіцца, якія словы на дарогу Вы сказалі свайму пераемніку.**

— Так, у нас была непрацяглая тэлефонная размова, у часе якой я пастараўся даволі сцісла сказаць Павалу Кралу пра галоўнае. Найперш — пра ключавыя асаблівасці Беларусі, якія могуць надаць аптымізму і ўпэўненасці ў працы. Перадусім, гэта выгаднае геапалітычнае становішча вашай краіны. Калі прыкласці намаганні і выкарыстаць гэты шанц, можна разлічваць на канкрэтныя вынікі і добрыя перспектывы. Для чаго, вядома, патрэбна адпаведная палітыка, праграма паслядоўных дзеянняў. Я перакананы, што Беларусь здольная стаць на гэты шлях, і не сумняваюся ў ягонай рэальнасці. Мы закранулі ў межах гэтай гаворкі таксама праблему канверсіі. Лічу гэта надзвычай важным для Беларусі, асабліва што датычыць будучыні ваенных гарадкоў, іх сацыяльна-эканамічнага адраджэння. Тут таксама ёсць несумненныя перспектывы. Бо некаторыя такія гарадкі маюць вялікія перавагі і выключныя падставы стаць новымі аб'ектамі як прамысловай вытворчасці, так і гандлёвага супрацоўніцтва. Шмат залежыць ад людзей, якія там сёння жывуць, ад той ініцыятывы, з якою павінны выступаць самыя лепшыя, самыя актыўныя вайскоўцы. Сярод іх, ведаю, ёсць шмат прадпрымальных, дзейных людзей, здольных развіваць кантакты, развіваць эканоміку.

Варта нагадаць, што ў красавіку мы правялі нацыянальную канферэнцыю "Сацыяльна-эканамічнае адраджэнне ваенных гарадкоў праз дэмілітарызацыю", арганізаваную Выканаўчай дырэкцыяй сумеснага міжнароднага праекта ПРААН, МАП і ЕЭК ААН "Канверсія, занятасць, прадпрымальніцтва і энергазберажэнне". Удзельнікі канферэнцыі былі аднадушныя адносна важнасці выкарыстання гэтага патэнцыялу, падкрэслівалі, што яго рэалізацыя магчымая толькі ў тым разе, калі ўрад выразна вызначыць сваю эканамічную палітыку і практычныя дзеянні ў галіне валодання зямлёй і іншаю ўласнасцю, а таксама ў сферы падаткаабкладання. Было засведчана, што цяперашняя сітуацыя застаецца няпэўнай і прыводзіць да страты інвестыцый і працоўных месц. Аднак я выказаў у размове свой аптымізм і спадзяванні на лепшае ва ўсім, што можа чакаць майго наступніка.

А цяпер адкажу на другую частку зададзенага пытання.

Нарэшце, разам з калегамі з дзяржаўных ведамстваў і няўрадавых арганізацый Беларусі, а таксама шматлікіх падраздзяленняў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый мы здолелі стварыць тут адзіны офіс, адзіны цэнтр усёй сістэмы ААН. Вы ведаеце, што аанаўская сістэма вельмі шырокая, там шмат асобных праграм і фондаў, праектаў і падраздзяленняў. Цяпер усе гэтыя складнікі, структуры і службы працуюць, узаемадзейнічаюць з намі. Размешчаныя ў Найробі, Жэневе або Нью-Йорку, яны маюць тут прадстаўніка. Наш офіс выступае ў ролі партнёра. І многія беларускія ведамствы, міністэрствы, зацікаўленыя ў тым, каб наладзіць кантакт з адпаведнымі аанаўскімі арганізацыямі, таксама звяртаюцца сюды, у наш офіс. Можа здацца, што ўсё гэта проста было зрабіць. Зусім не. Каб наладзіць работу, пачаць функцыянаваць, давялося прыкласці вялікія намаганні, у тым ліку, як я ўжо сказаў, сумесныя. Трэба кожнаму зарабляць на жыццё, і гэтаму прадстаўніцтву — таксама. І пераканацца ў тым, што жыццё не марнае, можна тады, калі ўбачыш карыснасць сваёй місіі і сваю канкурэнтаздольнасць.

Напрыклад, сёння ў Мінску працуе Праграма ААН па кантролю над наркатычнымі сродкамі — праблема вельмі важная як для Беларусі, так і Еўропы, уключаючы Расію і Украіну. Назваў бы таксама працу Упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў (УВКБ). Даводзіцца ўзаемадзейнічаць такім чынам, каб праблема бежанцаў не зрабілася цяжкім грузам для адной асобнай краіны, а з другога боку, каб Беларусь узяла на сябе абавязацельствы цывілізаванай краіны ў цэнтры Еўропы. Вы ведаеце, што рэспубліка прыняла адпаведны закон, цяпер трэба зрабіць, каб ён дзейнічаў. Увогуле, сярод бежанцаў шмат розных людзей. Напрыклад, бежанцам быў Эйнштэйн. Воляй лёсу быў ім таксама мой бацька. Ды і беларусам не трэба казаць, што стаіць за словам "бежанцы". Дастаткова прыгадаць зусім нядаўняе паслячарнобыльскае перасяленне.

Сярод іншых напрамкаў адзначу такія, як садзейнічанне развіццю знешняга гандлю ў Беларусі, а таксама дачыненні ў сферы змяншэння наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Пра вынікі канкрэтных Праграм у гэтых галінах можна будзе гаварыць, пэўна, крыху пазней, на сённяшні дзень вельмі важна, што яны пачалі працаваць на карысць Беларусі.

**— Тут, у Мінску, Вы неяк інакш адчувалі час, чым на Самоа, дзе працавалі перад гэтым, ці геаграфічны фактар не мае ўплыву на адчуванне нашых агульных зямных трывог?**

— У Беларусі мяне ўвесь час не пакідала адчуванне жудасці вайны і неабходнасці міру, спакою на зямлі. Не таму, што тут адзначаўся юбілей Вялікай Перамогі. Хутчэй я назваў бы гэта адчуваннем страт беларускага народа ў апошняй вайне.

**— У сваім першым інтэрв'ю часопісу Вы гаварылі, што пра Беларусь мелі пэўнае ўяўленне, калі займаліся гісторыяй славянскіх народаў. Ці збыліся Вашы надзеі паглыбіць гэтыя веды? Увогуле, як Вы думаеце, у Беларусі як дзяржавы ёсць шанцы замацавацца ў еўрапейскай сістэме каардынат? Не сакрэт, што нашу краіну ведаюць мала, ды і апошнія падзеі, на мой погляд, не дадалі да яе партрэта колькі-небудзь прывабных рысачак.**

— Так, летам і вясной я знаходзіў час паглыбіць свае ўяўленні пра Беларусь. Гэта былі падарожжы, у часе якіх можна было вывучаць пейзаж, назіраць прыроду і людзей. Запас убачанага дае мне падставы зрабіць выснову, што кожны рэгіён мае сваю спецыфіку. Скажам, Браслаўшчына гэта зусім не Навагрудак. Нават рэкі, кожная ў сваіх берагах, цякуць па-свойму. Сож, Днепр, Бярэзіна — гэта вялікія цудоўныя рэкі на Беларусі!

Што да дзяржаўнага ўладкавання на фоне іншых еўрапейскіх краін, дык на гэтым шляху Беларусь чакаюць не адно расчараванні. Перакананы ў тым, што чарговыя выбары пройдуць больш удала: і з больш шырокім удзелам сродкаў масавай інфармацыі, і з большай актыўнасцю кандыдатаў і выбаршчыкаў. Палітычны вопыт даецца не адразу. Тут як у показцы: што жывём, то вучымся. Мы наведалі ў якасці назіральнікаў некалькі выбарчых



## Першы прадстаўнік ААН у Беларусі ўпэўнены ў лепшай будучыні незалежнай краіны, якую ён пакідае, і хацеў бы яшчэ раз пагасцяваць у Пінску.



участкаў і мелі магчымасць сам-насам з людзьмі адчуць сэнс людской разважлівасці: работу зробім, а пасля падумаем... Сёння народ зразумеў, меў ён рацыю ці не.

**— Вы гісторык і мовазнавец. Разумею, як Вам няпроста, відаць, застаючыся да таго ж дыпламатам, расцаніць змену беларускай сімволікі і наданне рускай мове статуса дзяржаўнай нароўні з мовай беларускай. Прабачце, Вам не крыўдна за Беларусь?**

— Падзяляю вашу трывогу, аднак хацеў бы ў нечым і супакоіць. Мне давялося працаваць у шэрагу краін, дзе па тых ці іншых прычынах была ва ўжытку не адна, а дзве і тры мовы адразу ў якасці дзяржаўных. Напрыклад, у Паўночнай Афрыцы, дзе ўжываюцца і арабская, і французская. Альбо некалькі краін Азіі, дзе ў якасці другой стала англійская мова. Увогуле, пытанне гэта надзвычай складанае. Таму што ў кожнага народа, нават у кожнага чалавека ёсць свая родная мова. І мая, можа быць, трошкі не такая, чымся ў майго шатландскага суседа. Вядома ж, павінна быць мова міжнацыянальных зносін. І трэба ўмела карыстацца перавагамі абедзвюх, што, дарэчы, для Беларусі вельмі характэрна.

**— Сітуацыя, як я бачу, Вам не падаецца драматычнай. Але ж яна можа прывесці да канчатковага аслаблення пазіцый беларускай мовы.**

— Тое, што вы сказалі, вельмі важна. Я не ведаю, як працэс будзе развівацца далей. Для мяне несумненна тое, што беларуская мова не павінна заняпасці, згубіць важнасць альбо значэнне. Скажу больш, мне не здаецца, што беларуская мова губляе сваё значэнне. Можа, мой прыклад будзе выглядаць задужа эпізадычным, але прэм'ер-міністр рэспублікі ўручыў мне ў сувязі са сканчэннем місіі адмысловую грамату, вядома ж, на беларускай мове.

**— Можа, гэта ўжо апошні асобнік?**

— *(Смеючыся, рашуча не пагаджаецца.)* Не, не, не! Ні ў якім разе. Пакуль жыве часопіс "Беларусь", пакуль працуеце вы і іншыя патрыёты Беларусі, беларуская мова не стане "апошнім экземплярам".

**— Дзякуй, спадар Каханэ. Часцінку Вашага аптымізму я бяру сабе ў сэрца. І, дарэчы, пастараюся захоўваць аптымізм адносна гістарычнай сімволікі Беларусі. Мы да яе так нялёгка прыйшлі і раптам... зноў згубілі.**

— Мае сябры і знаёмыя за рубяжом пасля рэферэндуму пачалі пытацца ў мяне: "Ну што, Мэццю, што там адбываецца? Беларусі няма ўжо?" Я адказваў і адказваю: нічога падобнага. Так, сёе-тое цяжка зразумець. Як, напрыклад, можна вярнуць былое, якога не стала? Сімволіка былой сістэмы, зразумела, не паспрыяе нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, аднак мяне супакойвае поўная ўпэўненасць, што суверэнная Беларусь ёсць і будзе. Што да новага флага, я б назваў яго своеасаблівым і вельмі мірным.

**— На прэзентацыі першай нацыянальнай Справаздачы аб чалавечым развіцці Беларусі прагучала думка аднаго з выступоўцаў, што не трэба ідэалізаваць народ, кленчыць перад ім са словамі бяздумнай хвалы і любові. Гэта, мабыць, небяспечна — можна захваліць... Што Вы думаеце пра беларусаў як нацыю?**

— Паверце, мне не хацелася б пакідаць Беларусь. У нас тут з'явілася шмат сяброў, знаёмых. Прычым не адно ў Мінску, але ў іншых кутках рэспублікі. Тут нам было прыемна. Натуральна, гэта не Польшча, не Украіна, не Расія, не Латвія і не Літва. Гэта Беларусь. У чым яе асаблівасць? Не ведаю... Штосьці ўвесь час адчуваецца. Тое, што розніць ад суседзяў. У добрым сэнсе слова, вядома.

**— Кліматычныя асаблівасці, вядома ж, больш адчувальныя? Што ўразіла перш за ўсё?**

— *(Гледзячы за акно.)* Цяпер лета. Усюды ўсё расце і квітнее. Безліч дрэў і кветак. Чатыры месяцы таму — што там было? Нічога. Зіма была. Мы шмат гадоў жылі ў трапічных краінах, дзе лета ўвесь час, і ўсё без змен. А тут у студзені альбо лютым цяжка было і ўявіць, што будзе ў чэрвені — ліпені, якое багацце фарбаў раптам запоўніць усё наваколле. Гэта нас вельмі здзівіла. Можа нават больш чым што.

У Беларусі няма гор, але, як я ўжо казаў, ёсць вельмі характэрныя ландшафты, якія пры гэтым захоўваюць сваю унікальную непаўторнасць. Вазьміце Дняпро, Заходнюю Дзвіну, Нёман. Берагі не толькі цудоўныя ў сваёй прыгажосці, але на іх захаваліся прыкметы гісторыі. Шмат дзе мы сустракалі старажытныя гарадзішчы, месцы пахаванняў. Нам, археолагам і гісторыкам, гэта заўсёды цікава.

**— А дзе б, у якой мясціне Беларусі Вам хацелася пабываць яшчэ раз?**

— У Пінску. Прычым не толькі ў самім горадзе, але і ў ваколіцах. Яшчэ — у Слоніме. Тут, мне здаецца, найбольш захаваліся рысы гарадской даўніны, у прыватнасці, горадабудаўніцтва, размяшчэнне дамоў, цэркваў, касцёлаў.

У замежнікаў, я заўважыў, часта складваецца ўражанне, што ў Беларусі, мабыць, нічога не засталося, там нічога не бачыш. Гэта зусім няправільна. Канешне, калі праехаць у легкавіку па магістралі з Брэста ў Мінск, дык, можа, і сапраўды ўражанне будзе небагатае.

Каб нешта ўбачыць і спасцігнуць, трэба з'язджаць з магістралі, збочваць з прамога шляху. Цяпер у Беларусі шмат чаго аднаўляецца, асабліва культавыя пабудовы.

Часам, падарожнічаючы, мы так захапляліся глыбінкай, што забывалі пра час. Цікавасць была ўсё большай, падганяла прага новых і новых адкрыццяў.

Мяне дужа захапілі і парадавалі беларускія драўляныя хаты. Тут іх, на шчасце, захавалася шмат, чаго не скажаш пра іншыя мясціны, дзе іх паспела выцясніць цывілізацыя, калі яны там былі.

**— І апошняе. Ці ўдалося Вам наладзіць дачыненні з беларускімі філатэлістамі. Памятаецца, Вы абяцалі выстаўку асабістай калекцыі ў Мінску.**

— На жаль, з філатэлістамі стасаваўся я мала і рэдка. З-за нехваткі часу, вядома. Ведаеце, каб займацца філатэліяй сур'ёзна, патрэбна шмат часу. Хоць назіраць гэтую сферу ў Беларусі было надзвычай цікава — з пастаяннымі зменамі тарыфаў, марак, канвертаў. А менавіта гэтая з'ява мяне і цікавіць — наколькі філатэлія адлюстроўвае паштовую службу як сацыяльную функцыю грамадства. Карацей, як пошта задавальняе патрэбы чалавека. Тут у мяне з'явіліся добрыя набыткі.

**— У вас вялікая калекцыя?**

— Мая жонка вам адказала б, што ў мяне спачатку калекцыя, а пасля ўжо кватэра. А цяпер, у часе рэчавых збораў перад дарогай, яна не-не ды і скажа: "Ах, яшчэ гэтыя твае маркі"... *(Тут спадар Каханэ каторы раз рассмяяўся, але тут жа глянуў на гадзіннік. Заставаліся апошнія дні яго знаходжання ў Беларусі. Чакалі справы і клопаты. Мы развіталіся з добрымі ўзаемнымі пажаданнямі адзін аднаму.)*

**Валерый ДРАНЧУК.**

**Ліпень, 1995.**

**Рыгор БАРАДУЛІН**

# «І КОСКІ З МЕЙС

Усё першае, ранейшае помніцца лепей, чымся пазнейшае. З апрамецця памяці знічкава прахопліваюцца дэталі, эпізоды, нейкія падзеі, нейкія здарэнні. Вясёлае чамусьці само пра сябе нагадвае болей настойліва, падчас нават, хочацца сказаць, нахабіста. Сумнае, бо яно ў пераразе сваёй душэўнае, інтымнае, звычайна саромеецца абазвацца. Пісаць пра сябра, успамінаць пра чалавека, які табе баліць, неяк боязна.

Уладзімір Караткевіч настолькі глыбока ўвайшоў у маю свядомасць, запоўніў мяне з маладых нашых гадоў, аж не верыцца, што рана ці позна ён не прыйдзе, не прыедзе, не пазвоніць, не напіша смяшлівай паштоўкі ці ўрачыстакеплівага ліста.

Упершыню ўбачыў я здзіўленавокага, нязвыкла даверлівага, амаль па-малечы, цыблакаватага й разам з тым мажнога хлопца, у якога нечакана спалучалася й вясковa-мястэчкавая беларуская шчырасць з урбаністычнай еўрапейскай шырынёй і ўзважанасцю. Было гэта ўвосень 1954 года на традыцыйнай нарадзе маладых у Каралішчавічах. Першае ўражанне памыляецца рэдка. Такім і застаўся, такім і быў Уладзімір, Сямёнаў сын, — падлеткам, якому хочацца ведаць болей за ўсіх астатніх, — таму й ведае, якому між іншым рупіць паказаць сваю глыбокую дасведчанасць, сваю касмічную шырыню, — таму й паказвае, сваю неабачлівую любоў да ўсіх, — таму й любіць.

У Каралішчавічах у тую першую нашую сустрэчу далёка заходзілі мы па тады яшчэ ціхай дарозе. Уладзімір здзіўляў мяне й ашаламляў і развагамі й задумамі сваімі. Глядзеў я на яго, як тубылец на касманаўта. І трэба быць шчырым, да апошніх дзён заставалася жыць ува мне гэтае пачуццё багавейнасці й здзіўлення. Сам Уладзімір ніколі, нічым, ніяк не падкрэсліваў ні перад кім сваёй перавагі, сваёй адметнасці. Яна сама выдавала яго, незвычайнасць Караткевіча. Любіў маштабнасць, любіў гіпербалу. Любіў размах. Потым, калі ўжо не стала крышталъна чыстага пастыра духоўнасці беларускай, калі адчынялі ў Оршы мемарыяльную дошку на вуліцы, якую перайменавалі ў гонар Уладзіміра Караткевіча, любімая сястра Наталля Сямёнаўна паказвала мясціну, дзе стаяла хата, у якой нарадзіўся звястун новага Адраджэння. Паказвала й крынічку, у якую бегаў маленькі Валодзя мачаць ледзь не цэлую галаву даваеннага цукру. З малечых гадоў цягнула да шырыні жэста, да крыніцы. Метафарычна.

Дарогі. Яны разводзяць і зводзяць, чужыняць і родняць. Дарогі з Уладзімірам Караткевічам раднілі, зводзілі. Дарогі прыводзілі Уладзіміра на ўшацкую зямлю, дзе помняць яго дасюль, дзе яго любяць і шануюць. Дарогі нярэдка вялі і ў Маскву, гісторыю якой, яе славутыя мясціны ніхто, як ён, не ведаў.

Памятаю, параіў мне Караткевіч падацца на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскву. Ухапіўся я за гэтую ідэю. Пасля універсітэта паслаў належныя паперы. Адказ прыйшоў неўзабаве. Адмовіць! А ўсё, як высветлілася, пасля Караткевіча. Энцыклапедычна адукаваны слухач Вышэйшых літаратурных курсаў Уладзімір Караткевіч літаральна да слёз даводзіў сваімі як бы наіўнымі пытаннямі выкладчыкаў. Спытае нешта. Выкладчык не ведае, абяцае заўтра адказаць, а заўтра ў Караткевіча новае пытанне.

Не хочацца шмат казаць пра выкладчыкаў, хопіць аднаго, — напрыклад, Леў Ашанін меў званне прафесара. Былі, вядома, й сапраўдныя свяцілы. Але Караткевіч заганяў у казіны рог ашаністую прафесуру. І як вынік, рэктар ВЛК /толькі дзвюх літар не стае — СМ/ Лапцеў падпісаў загад не прымаць на вучобу асоб з філалагічнай адукацыяй — хопіць, адпакутавалі з разумнікам Уладзімірам Караткевічам! Мая заява якраз і падпала пад загад. Караткевіч раіў паступіць, і ён жа не дапусціў да вучобы, сам таго не ведаючы.

Ужо ў наш час распавядаў мне ў Туркменіі слухач ВЛК, як беларускі празаік, былы партызанскі радыст, выручыў увесь курс. Партызанскі радыст, значыць, выцягнуў пытанне не па ягоных сілах — "Медны коннік". Нядоўга думаючы, звярнуўся з пытаннем да выдатнага пушкіназнаўцы прафесара Бондзі, бо ён, вядома, лепей ведае Пушкіна, чым сам сябе Пушкін ведаў. А пытанне было такое, ці здраджвала Наталі Пушкіну. І, зразумела, завёў прафесара. Той казаў і так, і не. А потым спахапіўся, зірнуў на гадзіннік, трэба чытаць лекцыі ў Маскоўскім універсітэце. Похапкам прапанаваў Бондзі здаць заліковыя кніжкі й сказаць, хто якую адзнаку хоча.

Трохі адхіліўся, каб паказаць, якім нежаданым слухачом быў Караткевіч для прафесуры ўзроўню Ашаніна, аўтара песні "Как у нас во дворе" й да яе падобных.

А то неяк лёталі самалётам у Полацк. Славутая Сафійка, як заўсягды, рэстаўравалася. Уладзімір мне выбраў з друзу некалькі штук плінфы, пры гэтым прачытаў бліскучую, бо маланкавую, лекцыю па гісторыі й Сафійкі й Полацка. Ён мне іншы раз здаваўся сейфам, у якім захоўваюцца падзеі, факты, даты. На цяперашні час яго можна назваць і камп'ютэрам, у чыю памяць закладзена як не ўся гісторыя за шмат стагоддзяў.

Шмат часу ў яго забіралі тэлеперадачы. Гэта Караткевіч вёў праграму з крамольнай на тыя часіны назваю "Спадчына". Пісаў эсэ. Гэта Караткевіч у піку нарысам пра даярак, пра партызанскіх камбрыгаў, пра іхнія рукі, ногі, сэрцы пісаў эсэ, ужо адным вызначэннем жанру гарнуў чытача да еўрапейскасці, ад якой нас, прыродных еўрапейцаў, "людзі як са сталі" стараліся адвярнуць, абсуходзіць, абазіяціць абавязкова.

У выдавецтве з давзволу ЦК і Камітэта па друку ствараўся альманах, дзе меліся літаратуры народаў СССР гучаць па-беларуску. Прапанаваў я, бо прызначылі галоўным рэдактарам, назваць "Сябрына" — нельга, дужа беларускае слова й няма ў ім ідэалагічнага грунту. Назвалі "Братэрства". У першым нумары папрасіў я дарагога сябра напісаць эсэ пра Украіну. Згадзіўся. І калі прынёс Караткевіч эсэ пра Украіну, я зноў здзівіўся, як хутка, як прачула, як таленавіта было ўсё напісана. І зноў жа фантазія іграла, як тое сонейка на Вялікдзень. Былі ў эсэ і ўражанні ад цёплай яшчэ, сцюдзёнай паездкі: "...паехаць у гэты дзень у Мсціслаў, дарогаю (пры трыццаці градусах марозу) трапіць у буран, калі снег ад зямлі да неба, блукаць, бо за метр ужо не відаць нічога, некалькі разоў думаць, што ўжо — канец (тым больш, што праз нябачныя шчыліны ў машыну насейвае снег, а матор глухне, мабыць, у Беразіне заправілі бензінам з вадой), выбіцца ўрэшце на аўтакалону, што таксама засела, капаць, выцягваць і вылезці-такі ў дзве гадзіны ночы з дапамогай бульдозераў". І чаго там дзівіцца з класікі, дзе рэдкая птушка можа даляцець да сярэдзіны Дняпра.

Загадка Уладзіміра Караткевіча — гэта загадка бурштыну. Колькі стагоддзяў жывіцы беларускага духу, беларускага клёку, беларускага слова трэба было згушчацца ў самы цёплы й самы светлы камень, каб пасля сагрэць стылыя руіны нашае гісторыі, каб асвятліць ноч нашага падняволення, які цяжар і ціск давялося вытрымаць жывіцы беларускае жывучасці, каб стаць самым лёгкім каменем, які хочацца на сэрцы насіць, бо ён душу гоіць. Мы маем наскі, беларускі бурштын. Ён з беларускай жывіцы, з беларускага сонца. Ён трымае ўсмешку нашага сонца. У нас свой духоўны бурштын — Уладзімір Караткевіч, талісманны камень крывіцкае душы.

Дзякуй лёсу, што паслаў мне шмат сустрэч з Уладзімірам Караткевічам. Не пералічыць усіх мясцін, дзе даводзілася быць разам з сябрам, не ўспомніць усіх застолляў, дзе добра гулялася. Адно можна сказаць: дзе з'яўляўся Караткевіч, там усё жыло, там абуджаўся дух беларускі.

І цяпер настала пара сустрэч з неацэнным сябрам маім, сустрэч нетрадыцыйных. Хоць трэба адразу агаварыцца, што Караткевіч быў

наватарам ад першага надрукаванага верша да слова на сваім пяцідзесяцігоддзі. Слава, ачомаўшыся, сама даганяе Караткевіча. Вуліцы захацелі назвацца імем да шаленства таленавітага пісьменніка. Як на вокладках гаманлівых кніг, на дамах чытаю: Уладзімір Караткевіч. І пакуль што на Віцебшчыне ўзыходзіць помнікамі любімы сын крывіцкай зямлі. Следам за сваім папярэднікам, духоўным настаўнікам Францыскам Скарынам. Маладой вясной стаў помнікам Уладзімір Караткевіч у Оршы. Тэма "Меднага конніка" вырашылася самім жыццём: не "дзядзя Косця", а радавіты, панавіты сын святой зямлі, дзе ўзышла слава Беларускага войска, Уладзімір увасобіў крывіцкі дух, накінуўшы на юначыя плечы бронзавую апранаху. Ды і ў бронзе не забранзавеў Караткевіч. Восенню 1993 года ў стольным Віцебску ладзьбавалі помнік Уладзіміру. Насупраць абавязковаму Уладзіміру Ільічу, які дагэтуль усё паказвае, куды йсці. Наш Уладзімір, Сямёнаў сын, весела задумаўся, маркотна ўсміхаецца.

І з бронзавым сябрам ёсць пра што пагаварыць, лёгка пажартаваць, ёсць пра што ўспомніць.

Ну, хоць бы пра дзядзькоў і цётак, якіх ва Уладзіміра было амаль столькі ж, колькі буйных гарадоў на абшарах былой царскай, а пасля савецкай імперыі. У залежнасці ад абставінаў і характару прыгадаў, яны то ўдзельнічалі ў рэвалюцыі, то падымалі мяцеж супроць бальшавікоў. Іначай і быць не магло, бо род Караткевічаў быў даўні й непакорны. Найяскравей свой вольны нораў паказалі папярэднікі Уладзіміра ў паўстанні Кастуся Каліноўскага, асабліва любімага нацыянальнага героя нашчадкам радавітых падданцаў волі.

У рэанімацыі трылузілася Караткевічу атамная вайна. І казаў мне Уладзімір: "Бачыў, як цябе, Рыгор, усяго расплюскала, толькі цень твой на зямлі ледзь акрэсліўся..." Гэта прывід Чарнобыльскай катастрофы прадбачыў самы чулы, самы чуткі, самы шчыры сын Беларусі Уладзімір Караткевіч. І апошняя ягоная вандроўка была на Палессе, на Прыпяць. Каб развітацца. Харон чакаў. Вада ў Леце без радыяцыі.

Гэта на шасцідзесяцігоддзі Васіля Быкава ўжо падупалы здароўем Уладзімір пасля тоста перадаў юбіляру невялічкі гарэльеф з выявай ільва, і голасам, што пачынаў слабець, амаль пракрычаў:

— Рыкай, акі леў!

Як наказ. Бо ведаў, што толькі мужнасць і сіла волі Васіля Быкава дужыя процістаяць сілам цемры й зла. Бо сам Уладзімір Караткевіч, далікатны інтэлектуал, быў нясхібным і нязломным. "І коскі з мейсца не зрушу!" — гэта не фраза, не афарызм на публіку. Гэта штрышок да вобліка вялікага творцы, хто здоўжыў і доўжыць вякі беларускай думкі, беларускага слова, беларускага роду.



Фота У. Крука.

# ...ЦА НЕ ЗРУШУ!...»

# ЛЕЎ САПЕГА

Сярод зорак беларускай гісторыі Льву Іванавічу Сапегу належыць адно з найпершых месц. Сапраўды, ад часоў Рагвалода і да часоў навейшых ніхто не здолеў так канкрэтна і паслядоўна адстойваць і сцвярджаць ідэю дзяржаўнай незалежнасці Бацькаўшчыны, як ён. Уяўленне аб Радзіме, якая выгадавала і надала жыццёвых сілаў, як аб прасторы між спрадвечных лясоў, рэк і азёраў, аб акрэсах існавання старажытнай і адметнай культуры са сваёй мовай і традыцыямі — вось погляд на матчыну зямлю канцлера Вялікага Княства Льва Сапегі. І гэта не дзіўна, бо таленавітыя людзі заўсёды адчуваюць сваю існасць у часе, прасторы, культурным асяроддзі.

Будучы канцлер у юначыя гады атрымаў бліскучую адукацыю. Напачатку ён вучыўся ў радзівілаўскай рэфармацыйнай школе ў Нясвіжы. Потым скончыў Лейпцыгскі універсітэт. Малады Леў дасканала валодаў грэцкай, лацінскай, нямецкай і польскай мовамі, не кажучы пра сваю родную, беларускую. Ужо ў гады вучобы Л.Сапегу прыцягвалі філалагічныя і юрыдычныя навукі. Асаблівую ўвагу ён звяртаў на вывучэнне законаў еўрапейскіх краін і, натуральна, Вялікага Княства. Незвычайная логіка мыслення, бездакорная памяць і выдатнае веданне законаў дапамаглі яму выйграць судовую маёмасную справу ўласнага бацькі. Леў выступіў у ролі адваката. Даследчыкі адзначаюць, што невядома, быў Іван Сапега правы ці не, але, бліскуча выйграўшы справу, юнак звярнуў на сябе ўвагу самога караля і вялікага князя Стэфана Баторыя.

Праз юрыдычную дасведчанасць і актыўны ўдзел у вайсковай кампаніі 1579 г. супраць Маскоўшчыны за вяртанне адабраных спрадвечных беларускіх земляў, пачалася палітычная кар'ера Льва Сапегі.

Падчас вайсковай выправы Леў Сапега за ўласныя сродкі сфармаваў і ўзначаліў харугву. Акрамя таго, рабіў прапановы па ўдасканаленню законаў дзяржавы. Ягонай першай дзяржаўнай прыступкай стала пасада сакратара Вялікага Княства, пасля — найвышэйшага пісара Дзяржаўнай Канцылярыі Вялікага Княства і, нарэшце, у 1589 г. — канцлера.

На ўзыходжанні па гэтай адміністрацыйнай лесвіцы Леў Іванавіч Сапега праявіў сябе як умелы і прадбачлівы палітык.

На пасадзе пісара разам з Астафеем Валовічам і Кшыштафам Радзівілам Пярунам яны ўтварылі Трыбунал Вялікага Княства — вышэйшы апеляцыйны гаспадарчы суд. Пасля, у 1584 г., было вялікае пасольства ў Маскву, якое мела на мэце заключыць мірную дамову. На чале пасольства стаяў Леў Сапега. У складаных варунках маскоўскага палітычнага жыцця пасля смерці Івана Жахлівага і ўзыходу на прастол царэвіча Фёдара, дамова ўсё ж была заключана. Найбольш нечаканым вынікам перамоваў было тое, што малады, як некаторыя лічылі, дурнаваты цар згадзіўся адпусціць без усялякага выкупу 900 беларускіх вязняў, якія трапілі ў маскоўскі палон падчас захопніцкай вайны 1563 г.

Вышэйшым дасягненнем жыцця і працы Льва Сапегі, безумоўна, з'явіўся Статут Вялікага Княства, які быў падпісаны каралём і вялікім князем Жыгімонтам 28 студзеня 1588 г. У прадмове да Статута Л.Сапега пісаў: "Як казаў Цыцэрон, мы з'яўляемся нявольнікамі правоў для таго, каб карыстацца свабодаю маглі... Бо не толькі сусед і сумесны наш жыхар у Бацькаўшчыне, але і сам гасудар пан наш ніякага верхавенства над намі ўжываць не можа, адзінае столькі, колькі яму права дапускае... народу сорамна права свайго не ведаць, асабліва нам, якія не чужою якою моваю, але ўласным правам запісанае маем".

Статут быў унікальнай з'яваю ў тагачаснай еўрапейскай юрыспрудэнцыі. Нездарма па сённяшні дзень яго вывучаюць ва ўсіх еўрапейскіх універсітэтах на юрыдычных факультэтах. (Калі ўлічыць, што ў адрозненне ад нашых "кухарчыных дзяцей" сусветныя палітыкі ў пераважнай большасці юрысты, то ўвесь свет вывучаў і ведаў Статут, акрамя нас да пэўнай часіны).

Пра адметнасць Статута 1588 г. гаворыць і тое, што ён праіснаваў і дзейнічаў на Беларусі 252 гады да адмены яго пры Мікалаі І. Актам яго скасавання канчаткова ліквідавалася беларуская дзяржаўнасць, і Беларусь ператварылася ў правінцыю Расейскай імперыі.

Не было нічога дзіўнага, што дзеянне Статута 1588 г. скасоўвалася асобным указам, бо асноўнай мэтай гэтага зборніка законаў было сцвярджэнне дзяржаўнай самастойнасці беларускага гаспадарства ва ўмовах, калі ўсё больш адчуваўся ўціск і прэтэнзіі з боку Польшчы на пяршынства ў федэратыўнай Рэчы Паспалітай. Статут замацоўваў палітычныя адзнакі дзяржавы: урад, заканадаўчы орган — Вальны Сойм (па-сучаснаму — парламент), Трыбунал (Вярхоўны суд), Дзяржаўную канцылярыю (Міністэрства замежных спраў), войска. Зацвярджалася непарушнасць межаў Вялікага Княства і фактычна грамадзянства жыхароў. Асобны артыкул забараняў чужаземцам мець на землях Княства нерухомую маёмасць, займаць духоўныя і свецкія пасады. Апошняе палажэнне нават выклікала аднойчы зацяглую спрэчку Льва Сапегі з каралём Жыгімонтам ІІІ Вазаю, які наважыўся пасадзіць на вакантную Віленскую катэдру біскупа-паляка Бярнарда Мацеўскага. Леў Сапега, трымаючыся Статута 1588 г., сваёй згоды на гэта не даў. Толькі праз доўгія дзесяць гадоў гэтая спрэчка вырашылася на карысць канцлера. Біскупам стаў беларус Бенедыкт Война. Пасля спрэчкі за віленскае біскупства, усе падрыхтаваныя Жыгімонтам указы і граматы па Вялікім Княству кароль накіроўваў на зацвярджэнне да Сапегі. Канцлер адзін меў права ставіць на іх дзяржаўную пячатку. Такім чынам, ніводная дзяржаўная справа не мінала Л.Сапегу.

Што да самога Статута 1588 г., то Сапега не толькі падрыхтаваў яго, напісаў прадмову, дабіўся падпісання каралём, але і выдрукаваў у віленскай друкарні Мамонічаў летам таго ж года. Гэта дазволіла рэальна распаўсюдзіць закон у дзяржаве для выкарыстання і выканання.

Дбаючы пра ўмацаванне дзяржавы, канцлер не абышоў і духоўна-рэлігійнага пытання. Шматканфесійнасць Беларусі вымагала гнуткай палітыкі па ўладкаванню спрэчак, якія ў асноўным разгараліся паміж хрысціянамі: праваслаўнымі, каталікамі і пратэстантамі. Апалячванне шляхты праз касцёл, а таксама прэтэнзіі ўтворанага ў 1589 г. Маскоўскага патрыярхату на "трэці Рым" і ўсю "рускую" спадчыну, падштурхнулі Льва Сапегу да стварэння нацыянальнай царквы. Ідэя не была новай, але патрабавала рэальнага ўвасаблення. Будучы сам каталіком, канцлер усё ж дамогся кампрамісу паміж папскім прастолам і праваслаўнымі беларускімі іерархамі на чале з Міхаілам Рагозам. У кастрычніку 1596 г. на саборы ў Берасці была падпісана грамата аб стварэнні уніяцкай царквы. Гэтым актам прызнавалася духоўнае валадарства Рымскага папы, але ў беларускіх цэрквах захоўвалася грэка-візантыйская абраднасць, юліянскі каляндар, старажытнабалгарская мова Святога Пісання і беларуская — казанняў. Зберагалася маёмасць царквы, ёй надаваліся роўныя правы з касцёлам.

Аднак далейшае суіснаванне трох цэркваў (частка праваслаўных адмовілася пераходзіць у вунію) не было бясхмарным. Адстойваючы інтарэсы дзяржавы, спрыяючы распаўсюджванню уніі, Леў Сапега тым не менш стаяў на баку закона і хрысціянскай міласэрнасці. Калі архібіскуп Полацкі і Магілёўскі Язафат Кунцэвіч надзвычай жорстка пачаў абыходзіцца з праваслаўнымі вернікамі, канцлер у лісце да яго пісаў: "Вы... кіруючыся славалюбствам ды прыватнай нянавісцю, насуперак святой волі і закону Рэчы Паспалітай распалілі тыя небяспечныя іскры, якія ўсім нам пагражаюць усёзнішчальным пажарам". Разам з тым, нягледзячы на сваю непрыязнасць да Кунцэвіча, пасля забойства архібіскупа, злачынцы былі пакараны праз суд. На судзе, які ўзначальваў сам Л.Сапега, вінаватыя ў забойстве Кунцэвіча мелі магчымасць абараняцца праз адвакатаў.

Напрыканцы жыцця, у 1625 г., Леў Сапега стаў вялікім гетманам Літоўскім. Па-сучаснаму — маршалам. Ён не толькі кіраваў войскам, але, як сапраўдны патрыёт, падчас нападу на Княства шведскага караля Густава-Адальфа, ахвяраваў усю сваю маёмасць і каля 40 тысяч фларынаў на падтрымку збройнага чыну. Як слушна адзначае гісторык І.Саверчанка, толькі дзякуючы Льву Сапегу Вялікае Княства заўчасна не знікла з палітычнай мапы Еўропы.

Памёр Леў Іванавіч Сапега 7 ліпеня 1633 г. у Вільні. Пахаваны там жа, у касцёле Св.Міхала.

Сапраўды, гісторыя Беларусі другой паловы XVI — пачатку XVII стагоддзяў — эпоха Сапегі. Дзяржава трымалася на ім, як на казачным воласе. Гэта быў адданы, самаахвярны патрыёт, для якога найвышэйшым ідэалам была вера ў Бога і годнасць незалежнай Бацькаўшчыны.

**Малюнак Арлена Кашкурэвіча**

**Сяргей ТАРАСАЎ.**

# ВІВАТ, ГАСПАДАРЫ!



**Аляксандр ПУПЕЙКА, прэзідэнт фірмы "Пушэ":**

— Мы спрабуем стварыць разам з калгасам дзейсную структуру, здольную даць штуршок для ўздыму і дынамічнага развіцця ўсёй сельскай гаспадаркі рэспублікі. Гэты новы тып аграрнага прадпрыемства можа і павінен рэфармаваць нашу вёску.

**Валерый БАРЭЙКА, прэзідэнт фірмы "Пушэ-Агра":**

— Асноўнае пытанне сёння — выбар дзелавых партнёраў. Фірма мае два асноўныя крытэрыі адбору: эканамічны стан калгаса і асоба кіраўніка гаспадаркі. Мы ідзём насустрач тым, хто не апусціў рук у сённяшняй складанай сітуацыі, шукае нетрадыцыйныя шляхі выхаду з яе. Таму, хто не праяўляе ўласнай ініцыятывы, ніякі капітал "Пушэ" дапамагчы не можа.

**Мікалай ЛАПУЦЬ, старшыня калгаса "Вішнёўка", дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі:**

— Наш калгас набывае самастойнасць. Пасля стварэння аграпрамысловага прадпрыемства "Пушэ-Агра" стала магчымай арганізацыя на базе калгаса "Вішнёўка" буйной сельскагаспадарчай структуры на поўным гаспадарчым разліку з замкнёным цыклам вытворчасці і перапрацоўкі сельгаспрадукцыі. Незалежна ад дзяржаўнай датацыі плануецца развіццё не толькі вытворчай сферы, але і сацыяльнай.





● Размовы кіраўнікоў выглядаюць часам вельмі эмацыянальна. Злева направа: дырэктар мясаперапрацоўчага комплексу Мікалай Паўлавіч Балмакоў і старшыня калгаса "Вішнёўка" Мікалай Сцяпанавіч Лапуць.

● Фірменная каўбаса — рэчавае сведчанне таго, што фірма "Пушэ-Агра" існуе не толькі на паперы.



Фірма "Пушэ" для простага абываццеля часцей атаясамліваецца з продажам аўтамабіляў "Шкода" і спажывецкіх тавараў фірмы "Філіпс". "Пушэ" ў спалучэнні з калгасам "Вішнёўка" гучыць нязвыкла. Але ўсё так. Вядомая фірма, флагман беларускага бізнесу, пачала ўкладваць свой фінансавы і інтэлектуальны капітал у сельскую гаспадарку. Дакладней — у гаспадарку калгаса "Вішнёўка". Гэты крок не прынёс ёй яшчэ важкай матэрыяльнай аддачы, але бясспрэчна яшчэ раз прадэманстраваў прафесійную годнасць фірмы, свабоднае, прадбачлівае, зарыентаванае на далёкую перспектыву мысленне яе дырэктара і, урэшце, ягоны патрыятызм, неабыякавасць да балючых праблем краіны. А найбольш балючая сёння праблема — якраз вёска, што дажыла, здаецца, ужо да свайго апошняга краю і ніякія светлыя перспектывы нават не праглядваюцца. Зямля стамілася ад безгаспадарчасці, як і людзі. Нават калі асобныя старшыні-энтузіясты і спрабуюць нешта прадпрымаць, то рукі ў іх вельмі хутка апускаюцца: тыя ўмовы супрацоўніцтва, якія прапаноўвае ім дзяржава, не задавальняюць і задаволіць не могуць: аб'ектыўныя затраты на вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі значна перавышаюць закупачную цану на яе, якую вызначае дзяржава, а неразумная сістэма ўзаемаразлікаў, калі калгас атрымлівае грошы не адразу, а пасля таго, як яны пакруцяцца ў гандлі, ці яшчэ дзе, зрабіўшы некаму капітал, падводзіць да банкруцтва нават трывалыя гаспадаркі. А тэхніку, між іншым, сёння можна набыць толькі з перадаплатай. У такой сітуацыі выжыць цяжка, тупік відавочны, калі працягваць гуляць па старых правілах: дзяржава сёння не вельмі надзейны партнёр.

Першую спробу пазбавіцца ад дзяржаўных прадпрыемстваў-пасрэднікаў калгас "Вішнёўка" зрабіў два гады таму. Ужо тады прыйшло разуменне, што патрэбна зусім новая структура гаспадарання, калі калгас не толькі вырабляе, перапрацоўвае, але і прадае сваю прадукцыю. Такая задача калгасу не пад сілу, нават пры фінансавай дапамозе, і гэта добра разумеў старшыня Мікалай Сцяпанавіч Лапуць, які ўдзячны выпадку, што звёў "Вішнёўку" з "Пушэ". Хаця роля выпадку адносная: старшыня сам прыклаў нямала намаганняў, каб яго гаспадарка жыла і развівалася.

Шлях фірмы "Пушэ" ў "Вішнёўку" таксама цяжка назваць капрызам выпадку. Рашэнне далучыцца да працы ў сферы сельскагаспадарчай вытворчасці было прынята пасля вывучэння сітуацыі, якая склалася ў аграрным сектары. Было ясна, што карэнную перабудову структуры гаспадарання з прыцягненнем перадавых тэхналогій, змяненнем прынцыпаў рэалізацыі прадукцыі можна ажыццявіць толькі з дапамогай немалых інвестыцый. І ўсё ж да супрацоўніцтва з вёскай падштурхоўваў нават і вопыт заходніх краін, дзе буйныя фінансава-эканамічныя кампаніі ўкладаюць грошы ў развіццё сельскай гаспадаркі...

Мясаперапрацоўка, вытворчасць камбінаваных кармоў і біялагічных угнаенняў — вось тры напрамкі ў сельскай гаспадарцы, якія фірма "Пушэ" ўжо асвоіла. Асноўная задача сёння — выпрацоўка і распаўсюджванне тэхналогіі пашыранай сельскагаспадарчай вытворчасці. Своеасаблівым вопытным палігонам і стаў калгас "Вішнёўка", дзе, дзякуючы намаганням фірмы (а таксама папуляцыі спецыяльнага калі-



фарнійскага чарвяка) пачаўся выпуск біялагічнага ўгнаення. Партнёры набылі вопыт узаемадзеяння, ацанілі вартасці адзін аднаго, пераадолелі супярэчнасці, убачылі ў супрацоўніцтве ўвасабленне сваіх перспектыўных планаў. Так было створана аграпрамысловае прадпрыемства "Пушэ-Агра", якое ўзначаліў Валерый Рыгоравіч Барэйка. А цяпер проста лічбы і факты:

— у развіццё "Пушэ-Агра" інвеставана больш за 1,5 млрд. даляраў;

— выкарыстанне камбікармоў уласнай вытворчасці (магутнасць завода — да 2,5 тон у гадзіну) дазволіць на 20 працэнтаў павялічыць штодзённыя прыбаўкі вагі буйной рагатай жывёлы;

— дзякуючы выкарыстанню біялагічнага гумусу (яго плануецца выпускаць да 3 тон у месяц) прыкладна ў 1,2 — 1,3 раза павялічыцца ўраджайнасць сельскагаспадарчых культур;

— закладзена 19 сажалак, агульнай плошчай 22 гектары, для прамысловага развядзення рыбы;

— запланавана: будаўніцтва млына, пякарні, стадыёна, лазняпральнага камбіната, адкрыццё гандлёвых кропак у Мінску і іншых гарадах рэспублікі.

Найбольш радуе з запланаванага тое, што фірма "Пушэ" мае намер тыражаваць вопыт супрацоўніцтва з "Вішнёўкай" у іншых гаспадарках Мінскага раёна.

...На зямлі ўсталёўваюцца гаспадары, якія адновяць разбураныя гнёзды-вёскі. Можа, пасля Мінскага раёна пашчасціць вобласці? Рэспубліцы?

**Таццяна ЗАХАРЫНА.**
**Фота Віктара ДРАЧОВА.**

● Да гэтага часу маляўнічыя ваколіцы Вячы асацыіраваліся толькі з добрым адпачынкам на ўлонні прыроды. Апошнія падзеі пачалі паціху мяняць гэтыя мясціны: тут прапісваецца бізнес. Але будзем спадзявацца, што прыгажосць і экалагічная бяспека "зялёнай зоны" застануцца непарушнымі.

# КАБ НЕ ЗАБЫВАЛАСЯ СЛОВА

*(Заканчэнне, пачатак на стар. 3.)*

роднай нам мове, а мы эксплуатуем яе з раніцы да вечара, гвалтам уводзім у вушы чужое, далёкае ад сапраўднага сэнсу (паручыцца, пасобіць), забываючыся на сваё, даўняе **апекавацца** — клапаціцца пра што ці пра каго, турбавацца за што ці за каго, ахоўваць ад бяды, абараняць бездапаможнага. І што недаравальна — на радыё, на тэлебачанні сваё забываецца, а чужому даецца зялёнае святло, паўтараючыся з раніцы да вечара.

У перадачах радыёклуба "Жывое слова" мы, як можам, стараемся засцерагчы родную мову ад засмечвання непатрэбшчынай. Псіхалогія ўспрымання слыхам заўсёды абуджае ў чалавека памяць на свае, зразумелыя, лёгкія для вымаўлення словы. Але ж іх усё меншае, асабліва ў песнях сучасных.

Першай ці не асноўнай задачай клуб наш ставіць тлумачэнне слоў і выразаў, якімі мы карыстаемся, а яшчэ выхады на мовазнаўчыя прынцыпы стварэння найвялікшай каштоўнасці ў чалавеку, якой ён вырозніваецца сярод іншых жывых істот — мовы, найперш гутарковай, гучальнай, якая вельмі цяжка паддаецца ўнармаванню, але ж нормы вымаўлення, акцэнталогіі існуюць і трэба імі карыстацца.

Возьмем такі прыклад. Складанаскарочанае слова **выканком** даўно ўжо заняло сваё месца ў шэрагу абрэвіятур як самастойных, зручных для вымаўлення граматычных катэгорый. Калі яно займае асобнае месца ў слоўніку, дык і набывае сваю самастойнасць, адпавядае законам гучання з націскам на апошнім складзе, захоўваючы ў ім націскное этымалагічнае о — выканком. Дык не ж, шэраг перыядычных друкаваных (і недрукаваных — радыё, тэлебачанне) сродкаў масавай інфармацыі робяць самастойны моўны "кульбіт", ставяць слова з ног на галаву, прымушаючы нас вымаўляць пад націскам гук "а". Маючы ў сваім складзе два ненаціскныя гукі "а", слова становіцца немілагучным. А каму гэта трэба! Маладасведчаным у лінгвістыцы чыноўнікам.

Гукавая, а значыць і літарная абалонка слова, вымаўленага чалавекам, неабыякавыя для таго, хто слухае. Мілагучнасць — гэта не ўяўнае нешта, неспасцігальнае. Яна павінна стаць абавязковай нормай для кожнага адукаванага чалавека, бо слова, якое гучыць, у наш час стала абавязковым і для таго, хто з'яўляецца дзейснай асобай у грамадстве і зацікаўлены, каб яго разумелі, як кажуць, з першага выгуку. Гукавая (літарная) абалонка слоў цалкам павінна спалучацца з іхнім сэнсам, а значыць і зместам.

Радыё заклікана прывучаць людзей да літаратурнага вымаўлення і, наогул, да ашчаднага абыходжання са словам, каб яно не вылятала з гучнагаварыцеля як верабей, якога не так проста і злавіць, але западала глыбока і надоўга ў душу. На гэта скіравана праца ўсіх, хто займаецца выхадам у эфір радыёклуба "Жывое слова". Апошнім часам гэтую місію выконваюць: рэдактар Галіна Шаблінская, артысты Валянціна Каржанеўская і Канстанцін Сафроненка. Кожны раз гэтую брыгаду дапаўняюць гукарэжысёр і гукааператар, без іх нельга, бо слова на радыё — гэта перш за ўсё гук, дасканалы і дакладны, і эўфанічны (мілагучны). На радыё можна гаварыць толькі добра, або ніяк. Хацелася б, каб гэты дэвіз усталяваўся як галоўны "допуск" да мікрафона.

Наш радыёклуб ад самага пачатку ставіў сабе за мэту памагаць школе ў выхаванні адчування вучнем шчыльнай сувязі слова са зместам, з думкай, у навучанні дзяцей і на ўроках у школе расказваць "ад сябе", чытаць на ўроках вуснай мовы (шкада, што такія ўрокі трываюць толькі ў пачатковых класах) ад свайго "я", з пэўным стаўленнем да таго, што вычытана ці спасцігнута з тлумачэння настаўніка. Але не пераўвасабляючыся ў вобраз настаўніка ці аўтара падручніка, а застаючыся самім сабой, са сваімі магчымасцямі вуснага слова. Не толькі даравапымі прыродай, а яшчэ і развітымі да ўзроўню асэнсаванага валодання літаратурнай мовай. Пакуль што нашы школьнікі ў пераважнай большасці не ўзнімаюцца да ўмення выявіць сваё разуменне ведаў, якія прапануюць школьныя праграмы. І не толькі на ўроках гуманітарнага цыкла, але і прыродазнаўчага (матэматыка, фізіка, прыродазнаўства).

Школа, а значыць і радыё, заклікаць памагаць юнаму грамадзяніну, які атрымлівае сярэднюю адукацыю, набыць даволі высокі ўзровень не толькі практычнага валодання роднай мовай, але і поўнымі тэарэтычнымі ведамі пра яе. Не толькі ў плане граматычных правілаў, але шырэй, у абсягу агульнага і канкрэтнага (беларускага) мовазнаўства. Каб вучань, які паспяхова завяршыў навучанне ў агульнаадукацыйнай школе, мог, напрыклад, растлумачыць, што само **"слова"** паходзіць ад дзеяслова **слыць**, гаварыць, каб пра тое, што кажа чалавек, ведалі далёка, каб весткі пра яго **слылі**, несліся далёка, слылі ў суседніх народаў. Так пачынаецца жыццё чалавека, з яго слыннасці (слоўнасці).

Наш клуб, ведучы свой сталы раздзел "Творчасць нашых сяброў", прадстаўляе пэўны час і для знаёмства з тым, што пішуць, а больш правільна мусіць будзе сказаць — сачыняюць, ствараюць у час вольны ад школы — з іх спробамі ў мастацкай творчасці словам. Некаторыя школы, як Перарубская і Крытышынская ў Брэсцкай вобласці, другая школа горада Мядзеля шырока прадстаўлена ў нашых перадачах. Не магу не назваць тут шчырых выхавальнікаў юных талентаў — педагогаў Надзею Уладзіміраўну Белавус і Вікторыю Вячаславаўну Рачыцкую. "Дзверы" радыёклуба "Жывое слова" адкрыты для ўсіх, хто дбае, каб выходзілі са школы ўсебакова развітыя юнакі і дзяўчаты. Зацікаўленасць настаўнікаў клубам патрэбна нам, каб сама па сабе не знікала патрэба духоўнага пасталення тых школьнікаў, якія гэтага прагнуць.

Не магу не прыгадаць тут сям'ю Ластоўскіх з вёскі Савічы Пастаўскага раёна, дзе да работы радыёклуба прыгарнулася была нават бабуля, унук якой Віктар, ідучы ў школу, прасіў яе ўключыць магнітафон пад час перадачы "Жывое слова" і запісаць яе. А вярнуўшыся са школы дамоў, Віця праслухоўваў запіс і заставаўся праз усе школьныя гады самым актыўным удзельнікам радыёклуба. Потым, калі Віктар скончыў школу і пайшоў у армію, не менш актыўным быў і яго стрыечны брат Андрэй Лосік. А гэтая сямейная эстафета пачыналася ад Андрэйкавай маці Тарэзы Ластоўскай (Лосік), якая і цяпер, працуючы ў Паставах у цырульні, не пакідае слухаць радыёклуб "Жывое слова". "Мінула больш за 30 гадоў, а я, як школьніца, кожную апошнюю пятніцу месяца імкнуся да радыёкропкі, каб пачуць мілагучныя пазыўныя клуба, — пісала аднойчы Тарэза Норбертаўна ў сваім лісце на радыё. — І колькі б гадоў ні мінала клубу, ён заўсёды будзе маладым, дзякуючы ўдзелу ў ім вечна юных слухачоў".

Вось і думаецца, як бы добра было, каб такіх сем'яў, як Ластоўскія ў Пастаўскім раёне, аказвалася ўсё больш ды больш. Менавіта аказвалася, каб падавалі свой голас у радыёклуб "Жывое слова", выказвалі свой надзённы інтарэс і да таго, што праглядаецца ў перспектыве, далей, як будзе і ці будзе разгортвацца наша змаганне за дзяржаўны статус роднай мовы. А яна ў чалавека адна.

Апошнім часам даволі інтэнсіўна засмечваецца мова новай "трасянкай", у актыўны слоўнік сродкаў масавай інфармацыі трапляюць непатрэбныя "кліпы" (даруйце, і я пакарыстаўся гэтым іншамоўным словам!) з польскай мовы. Не трэба "стрыгчы" нашу мілагучнасць, парушаць без разбору запазычанняў з іншых, далёкіх для ўсходніх славян моваў. Не толькі ў абсягах лексікі, але і ў стылі, беручы "чужыя" сінтагмы.

Беларусь, асабліва яе цэнтральная паласа, зайздросна захоўвае тую першапачатковую, крышталізаваную чысціню, якая адпавядае спагадлівасці і ашчаднаму да іншамоўнай крыніцы характару, усяго менталітэту беларуса. Захоўвае ад недаследаваных і на "скорую руку" пашытых, не заўсёды зручных для вымаўлення, не тое, што для напісання, слоў з мясцовых дыялектаў. Арыентацыя павінна ісці на літаратурныя пласты, прапушчаныя праз спрактыкаванае "нутро" мастака слова і майстра яго ў асобе вучонага лінгвіста.

Адзін час, вельмі кароткі, давялося карыстацца кансультацыямі прафесара Беларускага універсітэта Пятра Бузука. Гэта быў вялікі знаўца агульнага і параўнальна-гістарычнага мовазнаўства, дасканала ведаў мовы, і з ім лёгка было нам, дыктарам Беларускага радыё, разбірацца ў пытаннях чужой і запазычанай лексікі, старажытнай беларускай мовы і яе дыялектных арэалаў. Яго дапамога ў пытаннях акцэнталогіі заснавала ў нас трывалыя асновы, якія зводзіліся да аднаго тэзіса: "Не спяшайцеся красці чужое, агледзьцеся добра ў сваіх нацыянальных скарбах". А гэтыя скарбы ён бясконца даследаваў і раскрываў перад усімі, хто імі цікавіўся.

Школа наша агульнаадукацыйная і дае добрыя веды ў галіне марфалагічнага раскрыцця слова, але недаравальна мала ў яго этымалагічным даследаванні. І мы стараемся насычаць і арыентаваць працу радыёклуба "Жывое слова" ў кірунку раскрыцця паходжання таго ці іншага слова і прасочваць, наколькі гэта магчыма, гістарычны шлях яго да нашых дзён. Больш за трыццаць гадоў гучыць штомесяц па Беларускім радыё перадача "Жывое слова", прываблівачы ўсё новыя і новыя ўзроставыя генерацыі школьнікаў, якія імкнуцца не толькі ведаць слова, але і спазнаць яго "біяграфію" на параўнаўчым разглядзе фактаў старажытнабеларускай, а таксама ўсіх славянскіх і іншых індаеўрапейскіх моў.

Мова, як кажуць, ва ўсіх на вуснах, яна арганічна ўплецена ў жыццё чалавека, неабходная ўмова ўсёй дзейнасці яго, і таму вельмі важна ведаць таямніцы роднага слова, каб ніколі не забылася яно.

*Яўген*
*КАРШУКОЎ*

## ПАЛЕСКАЯ ЗІМА

Быў колісь снег...
Такога ўжо няма.
Няйначай выйшлі завірухі
з моды.
Слата... Адлігі... Кволая зіма.
А я люблю завеі і сумёты!
А я люблю ісці па цаліку —
Кусты тырчаць з-пад снегу,
нібы вехі...

Я бачыў зімы на сваім вяку:
У вёсцы гурбы падпіралі стрэхі.
Як намяце за ноч — рабі хады,
Без іх сусед к суседу не
пралезе...
І хлеб цудоўны ў гэткія гады
Дарыла землякам маё Палессе.

## ВЕРА

Якая дзіўная эпоха!
Зноў зззяюць на царквах крыжы...
Пытаеш: верылі мы ў Бога?
Мы — верылі, што ні кажы.

Як паласнула вёску горам,
У дні вайны, якраз тады,
Маліцца ўсіх вучылі хорам
Дзяцей набожныя дзяды.

Быў абразок у кожнай хаце,
З выявай боскай абразок.
І ціха мне казала маці:
"Маліся шчыранька, сынок.
Мо нас ад немца і ўратуе
Усемагутны мілы Бог..."
Не помню я малітву тую,
А веру ў Бога — я збярог.

## СОН

Зноў гэты сон
мне ўбачыць давялося...
Відовішча — няма
яго страшней:
Гарэла ў полі спелае
калоссе
І не было, здаецца,
побач жней.

Той ураджай на гора людзям
выспеў
У самы першы жорсткі
год вайны.
Былі і жнеі...
Як на нейкай выспе,
Ляжалі ў жыце
мёртвыя яны.

❈ ❈ ❈

Шукаем паратунку мы у Бога:
На лепшае няма амаль
надзей...
Гісторыя не ведала такога —
Замучылі "рэформамі" людзей.

Як і раней, нас спакушаюць
раем,
Ды хопіць тых падманлівых
спакус.
Менш нараджаемся...
Больш паміраем...
Ці ў гэты лёс ты верыў, беларус!

## БЯСКОНЦЫ СУМ

Насупіў вечар бровы,
Прэч гоніць дзённы сум...
Настрой твой вечаровы —
Бясконцы ціхі сум.

На твары — толькі стома.
Усмешкі след прастыў.
Сядзіш ты нерухома,
Знядужаная ты.

З рук валяцца картоплі,
Іх не ўтрымаць руцэ...
Слязінкі, нібы кроплі,
Застылі на шчацэ.

...Шмат у жыцці я страціў.
Далей свой крыж нясу.
Няма, няма ўжо маці —
Застаўся матчын сум.

## МОЙ АЛЬБОМ

**Ты мне не падасі рукі,**
**Глядзіш удаль з-за**
**шкла партрэта...**
*Рыгор Барадулін*

Чамусьці я усё часцей
Бяру альбом стары у рукі...
Бяру яго і для гасцей,
І сам гартаю, без прынукі.

Вось брат...
Танкісцкі чорны шлем.
Згарэў у танку, нібы знічка.
А мы, удзячныя, жывем.
Жыць на зямлі —
святая звычка.

А брат такі быў малады!
З вайны і бацька занядужаў...
Ён не пражыў свае гады:
Прыбраў Бог франтавыя душы.

Гляджу на здымкі ўсё часцей,
Пяшчотна кратаю рукамі:
Тут твары любых мне людзей...
Пагаманю хоць так з бацькамі.

*Раман*
*ТАРМОЛА-МІРСКІ*

## ЦАРКВА

Адкуль ні глянь,
Як зорка, яна бачна,
Маленькая
вясковая
царква.
Па лініі святла
Яна сваячка
І месяца і сонца...
Сінява
На белым снезе
Ад яе не ценем,
Бо не бывае каляровым цень.
Галіны дрэў пад вокнамі,
Як церні,
У шыбінах заўсёды ясны дзень.
Для некага
мо бачыцца інакшай
Святая супакойвальніца душ.
Для некага яна святая глуш.
Ды гэта слепата
вачэй не нашых...

❈ ❈ ❈

З агню ды ў полымя.
З вады ў прыбой.
Калі пайшоў
насуперак стыхіі,
То ўсе навіны з раніцы благія,
А ўвечары — адзін разбой.
Па праўдзе,
я не тая вышыня,
Каб з небам
альбо зоркамі сварыцца.
Мяне вучылі
лёсу пакарыцца.
І цішыня
хай будзе цішынёй,
Ды нешта унутры супрацьстаіць.
І я ў наростах як бяроза з чагай.
І з небнага каўша ахвота піць —
Такая катуе
пазнання смага.
Чаго ля мора я сяджу ўначы,
Прыбіты да скалы прыбоем?
Я быў нічым.
Застаўся я нічым,
Аглушаны адно разбоем.
А выжыву —
ізноў прыйду.
Дамоў прыеду —
сяду перад печчу,
З вачэй пралью
на полымя
ваду
Салёную...
І віп'ю за сустрэчу.
Стыхіі дзве
павінны зразумець,
Што я — не я,
а трэцяя стыхія...
І не магу я
побач іх не мець:
Тут воля не мая.
І тут глухі я.
І праўда — глухата і слепата
Усё жыццё мае...
Пра гэта
Спрадвечна мора будзе ракатаць
І лезці ў бойку
полымя са светам.
Для некага — я ашалелы тып,
А побач з полымем і морам —
з'ява.
Спяваю і жыву на свой матыў.
Мая загадка ў тым. Мая праява.

❈ ❈ ❈

Усё не зведаць.
Праз усё прайсці,
На шчасце, можа нам не дадзена,
Інакш гайню б
на кожнага спусціў
Шалёны свет,
сцяжкамі сам абкладзены.
Мы і загоншчыкі,
Мы і ваўкі...
Ад шуму,
гаму
ды ад страляніны
Мы разбягаемся ва ўсе бакі,
Каб у канцы жыцця
прыйсці з павіннай
Ізноў жа — да саміх сябе.
А потым да самога Бога,
Як час да ніткі розум абскубе,
І не пакіне нас ужо знямога.

❈ ❈ ❈

"Як з крыжа зняты..." — гэта
пра мяне.
Глядзяць услед і шэпчуцца
бабулі.
І слёзы на вачах не ад цыбулі
Цыбульны плач пакінуў іх раней.

Як з крыжа зняты... Так і ёсць.
Але...
Я неяк умудрыўся выжыць,
Хоць столькі раз ляжаў
і праўда крыжам
Не на крыжы адно, а на стале.

Нябачны і вялікі хтось прасцёр
Уладу нада мной і рукі
І прыпыніў дачасна мае мукі,
Пакінуўшы мне сонца і жыццё.

Дагэтуль скептык, я цяпер
штодня,
Здаецца, чую лёгкае дыханне
/Праз гэта і фіранак
калыханне/
Таго, хто нам сусветная радня...

І перад храмам шапку я здыму,
Бялюткім храмам ды на белым
снезе.
І злосць і зайздрасць у мяне
не ўлезе,
Нібы мароз у мяккую зіму.

❈ ❈ ❈

Сапраўдны розум здабылі
адзінкі,
А грамада — падробку пад яго,
Бо дзе набрацца розуму
таго,
Хто чарапамі толькі і вялікі.

Сапраўдны голас данясе
і шэптам
Разумнае да сэрцаў і вушэй.
Крычаць жа крычма
па чужых канспектах,
Хто ростам, а не годнасцю
вышэй.

# АКВАРЭЛЬНАЯ АЎРА ВІЦЕБСКА

## Новая суполка прадаўжае традыцыі, прадстаўляе набыткі

Віцебская мастацкая школа, у самым шырокім кантэксце, уяўляецца своеасаблівай з'явай, якая існуе ўжо амаль стагоддзе. Бліскучае мінулае пачатку XX ст. паспрыяла асэнсаванню высокай місіі, быццам бы наканаванай віцебскім мастакам, сталася трывалым грунтам для шэрагу арганізаваных у апошнія гады музейных экспазіцый, пераканала ў неабходнасці правядзення глыбокіх гістарычных даследаванняў. Але традыцыя жыве і ў мастацтве сённяшнім. Міжнародныя Шагалаўскі ды Малевічаўскі пленэры, у якіх актыўны ўдзел бралі віцебскія мастакі, — яркае сведчанне жывога творчага духу, неразбуральнасці мастацкай аўры Віцебска.

І вось — яшчэ адна падзея, якая можа стаць у шэраг сусветных, — стварэнне суполкі "Віцебская акварэль".

Адна з асноўных мэтаў новай суполкі — захаванне і развіццё традыцый віцебскай акварэлі, вызначэнне яе месца ў сучаснай мастацкай прасторы. Бо віцебская акварэль, без перабольшвання, — з'ява еўрапейскага ўзроўню. Яе добра ведаюць у рэспубліцы і далёкім замежжы. Адметнасць віцебскай акварэлі неаднойчы зазначалі айчынныя і замежныя даследчыкі. Адны бачылі ў ёй проста цікавую з'яву, рэгіянальную асаблівасць творчасці, іншыя — пэўныя традыцыі, рысы мастацкай школы.

Відавочна, што гаварыць пра віцебскую школу акварэлі як пэўны мастацкі напрамак, прадстаўлены групай вучняў ці паслядоўнікаў канкрэтнага мастака, вельмі складана з-за шэрагу прычын. Нягледзячы на тое, што акварэль была распаўсюджана ў Віцебску ў 1910 — 1930 гады, ніхто з майстроў, якія працавалі тут (а сярод іх М.Шагал, М.Аксельрод, Д.Якерсон, В.Волкаў, Я.Мінін, М.Эндэ, У.Кудрэвіч, Ф.Фогт, У.Хрусталёў, Л.Лейтман, І.Гембіцкі ды іншыя), не пакінуў пасля сябе больш-менш распрацаванай і своеасаблівай стылістыкі мастацтва акварэлі і тым больш не наблізіўся да стварэння школы, нават у яе мастацкім сэнсе.

Тонкая ручаіна рэалістычнай традыцыі ў акварэлі, якая брала свае вытокі яшчэ ў даваеннай творчасці Л.Лейтмана, І.Ахрэмчыка, У.Хрусталёва, набыла дастаткова акрэсленыя формы, вызначанасць і канкрэтнасць толькі ў творчасці іх вучня Івана Сталярова. Менавіта яго праца з 1953 г. у мастацкім педвучылішчы, а з 1959 г. на мастацка-графічным факультэце педінстытута дае падставы для аналізу пэўнай мастацкай сістэмы.

Талент Сталярова-педагога вельмі хутка даў такі адчувальны плён, што акварэль, і дагэтуль досыць распаўсюджаная ў асяроддзі беларускіх мастакоў, набыла ў Віцебску асаблівы статус. Гэта надало ўпэўненасці і дапамагло шэрагу маладых віцебскіх творцаў канчаткова вызначыць свае прыярытэты ў мастацтве, больш вольна і натуральна ўявіць сабе вобразны свет і мову акварэлі. Цэлая група, у якую ўвайшлі В.Лук'янаў, Ф.Гумен, Г.Шутаў, В.Ляховіч, Л.Воранава, Г.Танковіч, М.Драненка, Г.Кісялёў, У.Напрэенка, Я.Панамарэнка, У.Іваноў, А.Шыёнак і некаторыя іншыя, — вось першая значная хваля творцаў, дзякуючы чыёй актыўнай мастацкай і экспазіцыйнай практыцы пачала набываць сваё аблічча ў канцы 60-х — пачатку 70-х гадоў віцебская акварэль.

З гэтага ж часу пачало паступова пашырацца і кола мастакоў-педагогаў, што выкладалі акварэльны жывапіс і прафесійна, самааддана займаліся ім. Прынамсі, у сістэму навучання на мастацка-графічным факультэце важкі ўнёсак зрабілі такія стылістычна вельмі розныя мастакі, як Ф.Гумен, В.Ральцэвіч, В.Ляховіч, М.Ляўковіч, А.Карпан, да якіх сёння далучыліся І.Шкуратаў, А.Кастагрыз. Гэта значна ўзбагаціла вопыт і традыцыі віцебскай акварэлі, але, мабыць, канчаткова заблытала даследчыкаў, якія імкнуліся вызначыць адметныя рысы яе агульнай стылістыкі.

Так, сёння разважаць пра дакладныя стылістычныя межы ў дачыненні да ўсёй віцебскай акварэлі можна толькі з вялікай доляй умоўнасці. Тыя ці іншыя рысы, што вылучаюць у якасці агульных, будуць мець дачыненне толькі да творчасці невялікай групы акварэлістаў і толькі на пэўным гістарычным прамежку. Акрамя таго, у кампазіцыях віцьблян нельга не заўважыць і пэўныя ўплывы, ці, хутчэй, стылістычныя паралелі з іншымі мастацкімі школамі (прыбалтыйскіх краін, Нямеччыны, Украіны і Расіі), якіх сёння не можа пазбегнуць ніводнае, нават звышсамабытнае мастацтва.

Гаворачы пра вызначальную ролю мастацка-графічнага факультэта ў фарміраванні такой з'явы, як Віцебская акварэль, тым не менш нельга ўяўляць яе сабе як школу, злучаную толькі наўпрост з яго навучальнай сістэмай. У гэтым выпадку за межамі з'явы апынуцца мастакі, што атрымалі адукацыю ў іншых мясцінах (Мінск, Масква, Ленінград, Львоў і інш.).

Напэўна, паводле не створанага яшчэ гараскопа мастацтва, 1995 год — год надзвычай "высокай актыўнасці" віцебскіх акварэлістаў. Вялікая прадстаўнічая іх выстаўка ў абласным мастацкім музеі на пачатку года распачала ўрачыстае шэсце па выставачных залах розных гарадоў рэспублікі. Летам у Полацку на адным з вернісажаў адбылася прэзентацыя суполкі "Віцебская акварэль", і пачалася праца над адкрыццём яе ўласнай мастацкай галерэі. Безумоўна, не колькасць экспазіцый вызначае стан віцебскай акварэлі сярэдзіны 90-х гадоў. Яе адметнасць — у шчырасці і высокай мастацкай культуры, у адсутнасці скіраванасці на "сацыяльна значныя" матывы і на заказныя тэмы. Акварэлісты натуральна і вольна адчуваюць сябе ў прасторы мастацтва, імкнучыся шукаць і эксперыментаваць.

І калі ў пазбаўленых знешняй эфектнасці, дынамічна спакойных і часцей за ўсё прафесійна бясспрэчных творах Івана Сталярова, як і ў акварэльных лістах яго вучня і спадкаемца Аляксандра Шыёнка, нас уражвае ўлюбёнасць мастакоў у прыгажосць наваколля, то абагаўленне прыгажосці прыроднага свету, памнажанае на лёгкасць і пластычную экспрэсію, уласцівае творчасці аднаго са старэйшых віцебскіх акварэлістаў Фелікса Гумена, уражвае не менш. "Гуменская манера" пазнаецца адразу: большасць яго твораў напісана "на адным дыханні".

Паэтыка і стылістыка твораў большасці віцебскіх акварэлістаў усё ж такі пераходзіць межы натурнай зададзенасці вобраза. Выразную і падкрэслена сэнсавую ролю пачынае адыгрываць кампазіцыя, колер, пластычныя трансфармацыі формы. Сюжэтнасць, як і традыцыйныя жанравыя структуры, нярэдка саступаюць месца праблемным, прыпавесным, алегарычным, сімвалічным вобразам. Мастакі больш вольна пачуваюцца ў прасторы і часе, карыстаюцца здабыткамі сусветнай мастацкай практыкі, значна пашыраюць тэхнічныя магчымасці акварэлі, асабліва цікавяцца фактурай паверхні, эксперыментуюць з лініяй і каляровай плямай.

Гэта і Генадзь Шутаў, у чыіх нацюрмортах старыя рэчы ды знешне не яркія палявыя кветкі і расліны чарадзейныя, па большасці асацыятыўна і сімвалічна вызначаныя.

Гэта і Аляксандр Карпан, у чыіх работах заўсёды ўражвае не толькі майстэрства ў перадачы фактуры, пластыкі, арганізацыі колеру ў кампазіцыі, але і сама вытанчаная канцэпцыя іх, і Ігар Шкуратаў, які набыў у асяроддзі прыхільнікаў віцебскай акварэлі імідж мастака ў нечым ідылічнага кірунку і нястомнага ў пошуку новай акварэльнай тэхнікі, фантастычна-казачных вобразаў падводнага свету і касмічнай прасторы.

Своеасаблівая паэтыка ўласцівая пейзажам Вікенція Ральцэвіча, і, магчыма, у іх нярэдка адчуваюцца пэўныя рэмінісцэнцыі з сімвалізму, мова якога ўспрымаецца даволі арганічнай ва ўжытку гэтага мастака. Даволі вольна, часам нават віртуозна абыходзіцца з акварэллю Мікалай Драненка. Мастак быццам бы паддаецца свавольству і пластычнай неабмежаванасці колеру, і тады ў віхуры творчага эксперыменту з-пад яго пэндзля выходзяць лёгкія, экспрэсіўныя акварэльныя пейзажы.

Наадварот, менавіта пошук важкага вобразнага вытоку, сэнсавага грунту ўласцівы творам Міхася Ляўковіча. Увагу мастака ў пейзажах, нацюрмортах, быційных кампазіцыях прыцягваюць падзеі сівой даўніны, увасобленыя ў гістарычных помніках — своеасаблівых топасах беларускай мінуўшчыны, а таксама аўтэнтычны народны побыт, звычаі беларусаў, гармонія і прыгажосць у жыцці сучаснага чалавека. Міхась Ляўковіч — самаадданы руплівец на ніве стварэння самабытнай школы віцебскай акварэлі, прапаганды яе традыцый, і таму яго выбранне ў якасці старшыні новай суполкі зусім не выпадковае.

Анімалістыка, амаль цалкам забытая і адкінутая ў сучасным мастацтве, і ўжо зусім рэдкая ў акварэлі, знайшла свайго прыхільніка ў асобе Алега Кастагрыза. У свет метафізічных, не заўсёды лёгка зразумелых гледачу вобразаў, выклікаць зусім не абыякавасцю мастачкі да свету рэальных рэчаў, уводзяць гледача работы Людмілы Воранавай.

Значна змяніла ў параўнанні з работамі, скажам, дзесяцігадовай даўнасці, свой "мастацкі твар" Валянціна Ляховіч: яна захапілася пабудовай фармальнай прасторы, выяўляючы і паказваючы больш глыбінны, у нечым нават філасофскі свет...

Асобнай гаворкі вартыя, зразумела, полацкія і навапалацкія мастакі, што пачуваюцца прадстаўнікамі яе вялікасці "Віцебскай акварэлі", хаця і не ўтойваюць сваёй уласнай творчай пазіцыі ў суполы.

Напэўна, калі-небудзь ідэя рэтраспекцыі віцебскай акварэлі захопіць і майстроў пэндзля, і мастацтвазнаўцаў — і тады ў арганізаванай буйной экспазіцыі можна будзе ўбачыць агульную карціну і этапы развіцця мастацтва акварэлі на Віцебшчыне. Гэткая выстаўка адбудзецца абавязкова, калі творы віцебскіх акварэлістаў хаця б у невялікай колькасці будуць набывацца для дзяржаўных музеяў, а не толькі будуць узбагачаць прыватныя ды дзяржаўныя калекцыі Германіі, Польшчы, Амерыкі, Ізраіля і многіх іншых краін. У адваротным выпадку... экспазіцыя гэтая ўсё роўна абавязкова адбудзецца. Але ўжо "там". І нам тады, як гэта ўжо неадночы здаралася, застанецца знаёміцца і вывучаць віцебскую акварэль паводле цудоўна выдадзеных замежных фаліянтаў... Будзем спадзявацца ўсё ж на лепшае.

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

# "З ЖАРЫН РАЗДЗЬМУХВАЮ АГНІ..."

*Народ — песняр, народ — паэт,*
*Народ без паэзіі? Недарэчнасць.*
*Паэзія — самы няўлоўны сакрэт,*
*Які не будзе нікім рассакрэчаны.*

Пімен Панчанка.

Паэзія — душа народа. У ёй выказвае ён сябе, сваё светаадчуванне, свае погляды на прыгожае, свае адносіны да падзей. Народ, які не мае ўласнай паэзіі, мастацкай літаратуры, — нонсенс. Гэта — народанасельніцтва, якое запаўняе сабой пэўную тэрыторыю, жывучы адным днём, занядбаўшы мінулае і не дбаючы пра будучыню. Першы клопат народа, які пачынае ўсведамляць самога сябе і імкнецца заявіць аб сваім прыходзе ў вялікі свет людства, — стварэнне ўласнай літаратуры на роднай мове. Калі слынны нямецкі гісторык і філосаф І.Г.Гердэр складаў у самым пачатку мінулага стагоддзя зборнік "Галасы народаў у песнях", то беларускіх песень (а тады песнямі называлі і вершы, якія маюць свайго аўтара) там не было. Праз тры дзесяцігоддзі Ян Чачот адгукнуўся на гэту падзею зборнікам "Сялянскія песні з-пад Нёмана і Дзвіны", сцвердзіўшы тым самым думку, што ў Еўропе ёсць такі народ — беларусы і ў яго ёсць свае ўласныя песняры, сваё нацыянальнае прыгожае пісьменства.

З тае пары беларусы як нацыя перажылі нямала ўздымаў і спадаў, некалькі хваль духоўнага Адраджэння. І ўсё гэта так ці інакш адлюстравалася ў нашай мастацкай літаратуры. Сёння мы зноў у чарговы раз у трывозе за лёс беларускай мовы, дзяржаўнасці, духоўнай культуры народа. Да ўсяго нашы ўласныя рэгіянальныя праблемы накладаліся на агульны сусветны крызіс культурных каштоўнасцей, калі чалавецтва з вялікай цяжкасцю выпрацоўвае новыя адносіны да свету, пакрысе пераходзячы з аднаго псіхалагічнага стану ў іншы, адкідваючы ўсё, што не вытрымала выпрабавання часам. Многія традыцыйныя ўяўленні аб тым, што такое літаратурная творчасць, як нараджаюцца паэты і як узнікаюць вершы, сёння выяўна ўдакладняюцца.

Зборнік вершаў Маі Львовіч, які ўключае паэтычныя творы, напісаныя па-беларуску і па-ўкраінску, і выдадзены далёка за межамі Беларусі, у Харкаве, — знак зменаў. Калі ўжо гэтак збяднела беларуская глеба, што не здольна пасля ўсіх трагічных падзей XX стагоддзя вырошчваць таленты, а тыя, што растуць самасеем, будуць глушыцца пустазеллем, то становішча народа змогуць выявіць у слове людзі, якія воляю лёсу апынуліся воддаль, але захавалі сваю духоўную сувязь з метраполіяй. І беларуская кніга, якой усё цяжэй выходзіць у свет на радзіме, будзе зноўку, як у канцы мінулага і пачатку нашага стагоддзяў, выдавацца дзе-небудзь у Кракаве, Львове, Вільні, Санкт-Пецярбургу, Лондане, Мюнхене і г.д. А гэта азначацьме адно: народ жыве!

Мая Львовіч, як сведчыць біяграфічная даведка, нарадзілася ў Адэсе, куды ў пачатку 30-х гадоў пераехалі з Беларусі яе бацькі. Яе лёс увабраў у сябе ўсё, што выпала перажыць, перабыць мільёнам людзей у гады галадамору на Украіне, у гады арыштаў і высылак, ваеннага ліхалецця, пасляваенных бясконцых пертурбацый, нядаўняй перабудовы. Пісала вершы на ўкраінскай мове, перакладала на гэту мову з некалькіх славянскіх, у тым ліку і з беларускае. Яе публікацыі ў беларускім друку запомніў наш чытач, заўсёды ўспрымаючы іх як адказ на свае тайныя трывогі і сумненні, якія так уласцівы няўпэўненым у сабе беларусам. Міжволі ўзгадваўся прыклад слыннага Максіма Багдановіча, які першым паказаў беларусам шлях да вяртання на сваю гістарычную радзіму.

Мая Львовіч адчувала гэту духоўную сувязь з краем, дзе прайшло жыццё многіх яе продкаў, і яе адчуванне міжволі выявілася ў кнізе "Земле моя...", якая выйшла яшчэ ў 1985 годзе і змяшчала некалькі твораў, напісаных па-беларуску. Удзел у адным з слынных каралішчавіцкіх творчых семінараў на пачатку 70-х гадоў даў магчымасць паэтцы душой далучыцца да творчай справы і клопатаў маладых беларусаў. Неўзабаве беларуская мова стала і мовай яе паэтычнай творчасці: спеўная стыхія беларушчыны захапіла яе, паланіла і ўжо не адпускала ад сябе.

*Каралішчавіцкі лес*
*Сыцепануўся ўвесь.*
*На Ласіным сярод лоз вырас лось.*
*Кроплі росаў лось атрос.*
*Промнем сонечным наскрозь*
*Каралішчавіцкі лес прарос.*
*І Алесь на лес увесь:*
*— Добрай раніцы! —*
*А дзесь азываецца здаля:*
*— Хрусь-хрусь! —*
*Адгукаецца: — Шалесь!*
*— Добрай раніцы, Алесь!*
*Добрай раніцы, зямля Беларусь!*

У гэтым і іншых вершах, прысвечаных Беларусі, пераважае захапленне шматгалосым беларускім лесам, прыродай, якая поўніцца галасамі, перагукамі, адбіваючыся ў душы паэзіяй. Тут сапраўды спявае сама зямля, і немагчыма перадаць гэты спеў іншай мовай, як толькі мовай паэзіі. Пераважна гэта лірычная паэзія, якая абапіраецца не столькі на лагічныя сувязі, колькі на асацыяцыі, перадаючы дадатковыя сэнсы слова і адценні настрояў, досыць цьмяныя, непадуладныя розуму душэўныя пачуванні, і заваражваючы плынню самога быцця. Прыкметна, што аўтарка арыентуецца не на ясны класічны і рэалістычны стыль, а на шматзначнасць паэтычнай сімволікі, яна ўздзейнічае не столькі на свядомасць, колькі на падсвядомасць, на эмоцыі чытача ці слухача. Адсюль такая прыхільнасць М.Львовіч да вобразаў сну, прыроднай стыхіі, уяўлення, калі рэальнае ледзь-ледзь угадваецца ў мройлівых моўных канструкцыях, у люмінісцэнтных фарбах, якія выпраменьвае вобразнае слова, у магутным рытме верша. Гэта ўжо не проста літаратура як адлюстраванне жыцця, але і адлюстраванне адлюстравання. Вось чаму так часта ў вершах паэткі сустракаюцца асацыяцыі з ужо знаёмымі нам творамі. Да ўсяго, яна і не тоіць сваю духоўную роднаснасць з папярэднікамі і сучаснікамі, свядома падкрэсліваючы крыніцу, з якой чэрпае натхненне. Многія яе творы маюць эпіграфы, а іншыя маглі б мець, але радкі ўжо сталі класічна вядомымі і не патрабуюць згадак аб тым, адкуль і ў каго яны ўзяты.

*Мне сыніцца сон. Мы век былі ў разлуцы,*
*І цьмянае аблічча паўстае.*
*Змарнелае, счарнелае ігрушы?*
*Усохлае, пажоўклае бярозы?*
*Чыесь яшчэ мо зробленыя рысы?*
*Мне сыніцца сон. Мне сон аб Беларусі.*
*Сон аб табе.*

Уражанне ўзмацняецца за кошт таго, што беларускамоўныя вершы М.Львовіч люструюцца ў варыянце ўкраінскім, і часта нялёгка ўгадаць, на якой мове, у стыхіі чыёй літаратуры, культуры спачатку яны ўзніклі. Але гэта і няважна, бо перад намі унікальная магчымасць пераканацца яшчэ і яшчэ раз у тым, якія блізкія нам украінцы, як шмат у нас агульнага і ў мінулым, і сёння. Адны і тыя ж думкі, блізкія пачуцці, падобны духоўны стан, а іх выяўленне ў мове абвастрае наша ўспрыманне, акунаючы па чарзе ў крынічны халадок і яснасць розных моўных стыхій. Параўнайце:

*Сон мені сниться. Вік були в розлуці,*
*І тьмяне в сні обличчя постае.*
*Змарніло'і, скалічено'і груші?*
*Усохло'і, пожовкло'і берези?*
*Чи'ісь іще мо виболені риси*
*Мені ввижаються? Сню Беларусь я.*
*Я сню тебе.*

Лірычны погляд на свет узнікае ў вершах М.Львовіч у момант, калі аўтарка перажывае асаблівыя, вельмі суб'ектыўныя адносіны да падзей і да людзей. Многія героі яе твораў добра знаёмыя і нам, беларускім чытачам, і таксама дарагія, але паэтка, знаходзячыся зводдаль і збоку, умее ўбачыць у вобразах гэтых герояў нешта такое, чаго мы не заўважаем, звыкшыся як з нечым знаёмым і не дужа арыгінальным. Таго ж Алеся мы сустракаем і ў іншых вершах і здагадваемся, што маецца на ўвазе цудоўны беларускі паэт, адкрывальнік новых напрамкаў у нашай лірыцы Алесь Разанаў. Але вось якое нечаканае асвятленне атрымліваюць пад рукой М.Львовіч некаторыя досыць вядомыя факты біяграфіі паэта, з якім яна сустракалася ў тых жа Каралішчавічах, на семінары маладых творцаў:

*Прыязджаў да мяне ў лес.*
*У свой лес да мяне Алесь.*
*Алесь — і выразнае прозьвішча разанскае.*
*Не на кафедру — у войска ўзялі.*
*За веданьне адмысловае беларускае мовы —*
*загрымеў у маскалі.*
*У маскалях вучаны. Марны, худы, змучаны.*
*І сьвіціўся ўвесь.*
*Нейкім сьвятлом тайным,*
*якое сваім апантаным*
*беларускі дарүе лес.*

Вобразы беларускіх адраджэнцаў, відавочна, прываблліваюць М.Львовіч выяўленай у іх жыцці і творчасці квінтэсенцыяй беларускага духу. Праз усю кнігу праходзяць успаміны, развагі і тужлівыя нараканні на несправядлівы лёс, які напаткаў вядомага знаўцу беларускай паэзіі, яе пранікліваға крытыка і самаахвярнага служыцеля Варлена Бечыка. Многія біяграфічныя падрабязнасці кароткага жыцця яго набываюць у вершах М.Львовіч сімвалічнае гучанне, натуральна ўпісваючыся ў летапіс народных выпрабаванняў і пакутаў, у шырокую раму гістарычных падзей. А падзеі гэтыя не спыняюць свае хады, яны не толькі ў мінулым, але ўрываюцца, не пытаючыся сучаснікаў, і ў сённяшні дзень. І паралеляў тут у абодвух народаў-суседзяў дужа шмат. Ёсць у кожнага свой боль — Курапаты ў беларусаў і Быкоўня ў украінцаў. Але ён адначасова і агульны, сумесны боль: у Быкоўні адшуканы муштук з надпісам, які засведчыў, што ён належаў да арышту і расстрэлу старшаму брату Я.Брыля. Гэты факт ужо і сам па сабе прываблівае ўвагу, а калі дадаць, што і месца нараджэння ў Я.Брыля і М.Львовіч адно і тое ж — Адэса, то нельга не задумацца пра пакручасты лёс і людзей, і народаў:

*Твой брат забіты на маёй зямлі.*
*І ні табе, ні мне нідзе не дзецца.*
*Ёсць Беларусь. І ёсць у нас Адэса.*
*І Быкіўня. Мы тройчы землякі.*

**Міхась ТЫЧЫНА.**

*Мая Львовіч. Цяпельца. Вершы. Вогник. Вірші. Харкіў. "Прапор", 1995.*

Казкі народаў Заходняй Афрыкі

# ДЗІВОСНЫЯ ПРЫГОДЫ ЗАЙЦА ЛЁКА

## ПРЫГОДА ТРЭЦЯЯ, у час якой Лёк пазнаёміўся з людзьмі і што з гэтага атрымалася

Дарога, якую выбраў адважны заяц, вяла ўсё наперад і наперад і, нарэшце, стала шырокаю і роўнаю, нібыта вялікая рака.

"Звяры па такіх шырокіх прагалах ніколі не ходзяць", — падумаў Лёк і здагадаўся, што гэта — чалавечая дарога. А з чалавекам Лёк даўно ўжо марыў пазнаёміцца.

Забыўшыся пра стому, заяц смела паскакаў проста пасярэдзіне дарогі. Неўзабаве ён убачыў вялікі статак. Каровы старанна скублі траву, а непадалёку ад іх стаялі нейкія снапы саломы. Лёк падышоў бліжэй і зразумеў: гэта не снапы, а людскія хаты. Навокал, як і казаў павук Дзіаргонь, на двух лапах, нібы жэрдкі, хадзілі людзі. А некаторыя, меншыя, корпаліся ў пяску.

— Напэўна, іхнія дзеці, — здагадаўся Лёк. — Пайду пагуляю з імі!

Ён павярнуў у бліжэйшы двор і ўбачыў там двух хлапчукоў, якія штосьці будавалі на пяску. Дзеці ніколі не бачылі жывога зайца, але зусім яго не спалохаліся. Наадварот, Лёк ім падаўся цікавым і добрым.

— Заставайся з намі! — папрасілі хлапчукі звярка.

Лёк падышоў бліжэй, дзеці яго пагладзілі.

— Ты падобны на баранчыка, — сказаў першы хлапчук.

— Не, — запярэчыў яму сябрук, — ён падобны на ката!

— Памыляецеся, — прысеў каля іх дзіўны госць. — Я — знакаміты заяц Лёк, нястомны і адважны вандроўнік. Хочаце, загадаю вам загадкі, якія пачуў у нябліскай дарозе...

— Хочам! Канечне, хочам! — у адзін голас закрычалі дзеці і аж раты паразяўлялі — так было цікава.

— Ну, тады слухайце першую загадку, — важна прамовіў Лёк: — Яе на дарозе сустракаюць, але ніколі не чапаюць... Што гэта?

Хлапчукі пачалі ўспамінаць, што яны бачаць, калі ідуць па дарозе.

— Напэўна, галінка дрэва, — сказаў няўпэўнена адзін малы.

— А можа, рэчка?.. — нясмела яму запярэчыў дружбак.

— Не, даражэнькія, — вы памыліліся! — усміхнуўся Лёк. — Гэта не галінка і не рэчка, а гадзюка!

Хлапчукам стала сорамна. Як яны не здагадаліся?! І сапраўды: гадзюкі часта сустракаюцца на афрыканскіх дарогах, але іх ніхто не чапае. Так проста, а не здагадаліся...

— Не сумуйце, вы не падумалі, таму і памыліліся, — суцешыў іх Лёк і загадаў новую загадку. — Даўжэй за яе — не знойдзеш у свеце, ды толькі ценю няма ў яе, дзеці...

— Павуціна! — усклікнуў адзін з хлапчукоў.

— Ліяна ў джунглях! — падаў голас другі малы.

— Зноў вы памыліліся, — шкадаўліва заківаў галавою заяц. — Даўжэйшая за ўсё на свеце дарога. А паглядзіце: ці ёсць у яе цень?

— Няма... — пагадзіліся дзеці.

Потым заяц загадаў хлапчукам трэцюю загадку:

— Хто заўсёды тчэ і не стамляецца?

— Наша мама! — усклікнулі малыя браты.

— Я згодны з вамі: ваша мама многа і добра тчэ, — сказаў Лёк, — але яна ўсё-ткі стамляецца. А тчэ, не ведаючы стомы, павук...

Сказаўшы гэта, Лёк падумаў, што хоць павук Дзіаргонь і доўга жыве на свеце, але вялікага розуму не набыў. Ён аблаяў людзей, а яны зусім не страшныя стварэнні.

Пераказаў
Уладзімір ЯГОЎДЗІК.

**Размалюй, калі ласка!**










## Мікола ЧАРНЯЎСКІ

### *ДОЖДЖ-БАРАБАНШЧЫК*

Напаўзлі раптоўна хмары,
Серп маланкі мільгануў.
Бухнуў гром —
Па ўсім абшары
Дождж прабегся, дождж лінуў.
Дахі ён, лісты палошча —
Хто яго пачуе пошчак?
Кроплі б'юць
У сіні збан —
Той грыміць, як барабан.

Ды ніхто не чуе,
Ды ніхто не бачыць.
Толькі ў хвілю тую
Кроплі —
Скачуць,
Скачуць.

З барабанам дождж з'явіўся,
А з'явіўся —
Падзівіўся:

Змоўклі раптам птушкі,
Вербы нізка гнуцца.
Камары і мушкі —
Не звіняць,
Не ўюцца.

Не трашчаць, не скачуць
Конікі ў пракосах.
Паляцелі ў сховы
І чмялі,
І восы...

Толькі вунь дзяцей чародка
З хаты выпырхнула лётка:
"Дождждык, дождждык, секані,
Мы паедзем на кані,
Міма весніц і акон
За табою наўздагон.
Праз лагчыны ды прасёлкі —
Дружна ў госці
Да вясёлкі!.."

Дождж ад радасці па градах
Прыпусціў наўскач, ды з градам.
Збіў лісцё, прыбіў траву...
Але хто спужнуў дзятву?

Быццам воўк падкраўся —
Пырхнулі падлёткі!
"Можа, пастараўся
Я залішне ўсё-ткі?
Барабаніў, можа,
Дужа густа, гулка?

Мо зрабіў нягожа:
Вулка — як рачулка!.."

Сціхнуў гром. Сплыла вада ўся.
Змогся дождж,
Дамоў падаўся.
Заблішчэў на плоце збан —
Гулкі, звонкі барабан.
Азірнуўся дождж здаля;
Што за цуд —
Пяе зямля!
Ці ж даўно не чулі,
Ці ж ніхто не бачыў? —
Шле ку-ку зязюля,
Вербы светла плачуць.
І трашчаць, і скачуць
Конікі ў пракосах,
І дзяцей чароды,
Гаманлівых, босых,
Бегаюць па лужах, —
Не ўтрымаць дасужых!

Дождж у крыўдзе,
дождж у скрусе:
"Не, сюды ўжо не вярнуся!

Ну чаго ж чакалі?
Што ўсё гэта значыць:
Граў ім —
Паўцякалі,
Супыніўся —
Скачуць!.."

Ён не чуў з-за хмары
Шэпат нівы ўнізе:
"Не крыўдуй, таварыш,
Зноў сюды вярніся.
Але дам параду:
Лепш — адзін,
Без граду!"



## Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

### *НЕБЫЛІЦА*

— Гэта было даўно-даўно,
Яшчэ да цара Гароха,
Кот і сабака ў даміно
Гулялі сабе патроху.
— Во выдумляе —
Так не бывае!
Сабака не знаў ланцуга,
А кот не быў памаўзою,
Сварлівая Баба-Яга
Дзяўчынкай была малою.
— Во выдумляе —
Так не бывае!
Быў у мядзведзя свой гастраном
І ён называўся "Пчэльнік",
Шэры воўк сябраваў з бараном —
Хадзілі ў адну вучэльню.
— Во выдумляе —
Так не бывае!
Мне казалі, што той баран
У навуцы быў самы першы...
— Баран!?
— Баран.
— Падман!
Небыліца ўвесь гэты вершык.

## У.МАЦВЕЕНКА

### *СКОРАГАВОРКА*

Зусім
Маленькая Яніна
Падсела
Ранкам к піяніна.
Паклала
Зверху партытуру,
А рукі —
На клавіятуру,
Наморшчыла
На твары скуру
І рэпетуе
Уверцюру...

### *ШАРАДЫ*

Першы склад
З ваты і снегу бывае.
Другі —
Рухавік з маторам з'яднае.
А ў цэлым —
Ён вам на пытанне адкажа,
Дзе поўдзень, дзе поўнач,
Заўсёды пакажа.

Ком-пас
Компас

Меру вадкасці знайдзіце,
Адну з літар прыкладзіце.
З шахматаў, хто пажадае,
Хай фігуру пашукае,
А ў цэлым — ва ўсім свеце
Вывучаюць яе дзеці.

Літар-а-тура
Літаратура

Малюнкі
Алены ВАШЧАНКІ.

**З нагоды прэм'еры балета "Страсці" ("Рагнеда"), якія стварылі кампазітар Андрэй Мдзівані, аўтар лібрэта і харэограф Валянцін Елізар'еў, музычны кіраўнік і дырыжор Генадзь Праватораў, мастак Вячаслаў Окунеў**



Спектакль незваротна завалодвае ўвагаю гледача з таго моманту, як адкрываецца заслона: усю першую дзею баішся абмінуць хаця б адзін жэст танцоўшчыкаў, хаця б адну фразу аркестра. Таму, у перапынку сустрэўшы ў фае аўтара музыкі, не магла стрымаць узрушаны воклiч: "Бліскуча! Цудоўна!"

"Пачакайце, — крыху прытушыў ён мой запал. — Вось дагледзьце да канца..." І сапраўды, другая дзея, не менш, калі не больш, яркая і ўражлівая, выклікала роздум — з'явілася неадступная патрэба разабрацца ва ўбачаным. Спектакль паўздзейнічаў вельмі моцна, ён проста заразіў — не, зарадзіў энергіяй дзеяння.

Хай даруюць мне шматлікія аматары оперы, але балет — гэта той від тэатральнага відовішча, выяўленчыя мажлівасці якога толькі пачынаюць паспраўднаму раскрывацца. Ён увесь тут — і цяпер! З часоў майго ленінградскага дзяцінства і абанементаў у тагачасны Кіраўскі, а цяпер зноў Марыінскі тэатр оперы і балета, танец як сродак выказвання самых складаных перажыванняў заставаўся ва ўяўленні на недасяжнай вышыні. Так, балет застаўся для мяне першай адданай любоўю. Былі, вядома ж, і моманты не такога захопленага стаўлення да яго — ад празмернай саладжавай аранжарэйнай прыхарошанасці, адсутнасці **жыцця** ў многіх класічных пастаноўках...

Аднак балет наогул, а "Страсці" ў найвышэйшай ступені, метафарычнае стварэнне — метафарычнае наскрозь, як паэзія або проза

# МЕТАФАРЫЧНЫ, ЯК ПРОЗА ПАЭТА, — НАСКРОЗЬ!

● Сцэны з балета "Страсці" ("Рагнеда")

● Юная Рагнеда, мілыя сяброўкі...

● Паганскае паляванне.





тым ліку й самых нізкіх. "Духаўздымнасць" танца дазваляе **перанесці** іх у сферу эстэтычнага перажывання, вымушае перажыць катарсіс, а значыць — ачысціць душу.

Вядучая наша прыма, непараўнальная Інеса Душкевіч танцуе Рагнеду пяшчотную, але непахісную, і ў адмове на заляцанні Уладзіміра прачытваецца хутчэй не гонар, а вернасць: "іншага кахаю", за што неўтаймоўна-самалюбівы Уладзімір гэтак жорстка і помсціць ёй.

Веніямін Захараў натхнёна танцуе — не князя-злодзея, не, а даравітую, яркую асобу, якая проста не мае пакуль іншага спосабу падтрымання свайго высокага "рэйтынгу", апрача чыста сілавога. Прывабнасць вобраза дэкларавана актыўна, адразу, хоць і ўзрастае да канца спектакля. Уладзімір — гэта не ўмоўна дэманічная персона, але чалавек, падуладны ўсім страсцям; танец жа яго лёгкі, як чыстае полымя.

Здавалася б, першая дзея мае цалкам закончаную драматургію, якая выклікае пэўную эйфарыю: цудоўна! А вось другі акт спектакля выклікае ў душы сяды-тады пратэст, у канцы ж вымушае задумацца... На якой падставе?

Пасля сцэны, досыць звыклай для нашага гледача, — п'яны Уладзімір у кампаніі "ліпучых" наложніц бярэ на рукі малалеткусына, сілай спрабуе яго напаіць, затым з раздражненнем штурхае дзіцёнка да маці, — з'яўляецца візантыйская царэўна Ганна Багранародная (Таццяна Шаметавец). З раззлачанай світай, і

паэта. І тэмпарытм новага спектакля Акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі ідэальна супадае з пульсам самога жывога жыцця.

Такім чынам, першая дзея, вядомы ўсім гістарычны эпізод пра адмову Рагнеды, князёўны Полацкай, "рабынічу" князю Уладзіміру, якая заплаціла за гэткую гордасць жыццём усёй сваёй сям'і, спазнала глум і гвалт жорстка абражанага князя.

Трое сляпых-юродзівых крочаць паўз амаль празрыстую суперзаслону, на якой, нібыта на шматкроць павялічанай летапіснай старонцы, чытаюцца пісаныя кірыліцаю радкі — тры сімвалічныя постаці вешчуноў (сляпы бачыць сутнасць!), кшталту трох вядзьмарак у пралогу да Шэкспіравага "Макбета", вось-вось прадкажуць блізкую бяду. Юная Рагнеда, якая весяліцца сярод сяброўак, падобных да німфаў і дрыядаў, яшчэ не ведае, што невідушчыя гаротнікі, парушыўшы дзявочыя гульні, прадкажуць ёй кроў. Ды Рагнеда не баіцца старых, шкадуе нябогаў: гэта першы знак, што яна адолее лёс, вытрымае выпрабаванне.

Статычны танец, умоўна — дэманстрацыя моцы, калі князь Полацкі Рагвалод і ягоныя сыны, а таксама маці Рагнеды паўстаюць у карцінных позах, — узрываецца шалёным тэмпам скокаў світы князя Уладзіміра. І адразу следам за сваімі сватамі, нібыта бліскавіца, з'яўляецца ён, у аранжавым з чырвонымі "языкамі", палымяным плашчы, з рэзкімі, жорсткімі жэстамі, — увасабленне зладзейства і вайны.

Сцэна гвалту, забойства і пажару, менавіта за кошт шалёнага тэмпу танца эстэтычна выверaная, выклікае жах, — жах, а не

**Прароцтва невідушчых мудрацоў.**

**Княжыў Рагвалод у Полацку...**

сорам і агіду, непазбежныя ў тым выпадку, калі аналагічныя тэмы вырашаюцца "наўпрост", падобна сцэнам, знятым натуралістычна і квола, якія запаланілі апошнім часам постсавецкае "новае кіно". Так, жыццё жорсткае — сцвярджае пастаноўшчык "Рагнеды", часам яно жорсткае нясцерпна, і, на жаль, нельга адрэсці падобныя высновы толькі да часоў тысячагадовай даўнасці. І адвесці вочы таксама нельга — войны, пажары і гвалт сёння побач...

Выкажу зусім не бясспрэчную думку: магчыма, танец — адзіны спосаб **зжывання** страсцей, у



сама, як залатая змейка, гнуткая і струменістая. У танец яе ўплятаюцца элементы індыйскай рытуальнай пластыкі, чым узмацняецца магічнае ўздзеянне танца Ганны, але аддаляецца хрысціянскі аспект гэтага заляцання. Князь Уладзімір, як дзіця, заварожаны бляскам і ўрачыстасцю гэтага рытуальнага дзейства, і не хавае гэтага.

Аднак... Менавіта яна, здрадлівая і спакуслівая Ганна Багранародная, вядзе закаханага Уладзіміра да новай веры! Далей — самая спрэчная сцэна гэтага шматпланавага спектакля: персанаж названы ў праграмцы "Сын Божы", цягне па сцэне крыж, ад куліс да куліс (кананічны сюжэт жывапісу "Нясенне крыжа"), на яго паказвае Уладзіміру царэўна Ганна. Затым натоўп чорных, рагатых, у масках ды плашчах, усцягвае Сына Божага на Галгофу, а потым імітуецца яшчэ адзін кананічны жывапісны сюжэт — "Зняцце з крыжа". Відавочна, гэта сюжэт, увасоблены ў пластычных карцінах, які Ганна распавяла Уладзіміру.



Ці то "недацягвае" выканаўца ролі Сына Божага (надта цялесны!), ці то пасіўныя пакуты ўвогуле немагчыма выканаць сродкамі харэаграфіі, а іншай задачы перад выканаўцам і не было, — усё на сцэне замаруджваецца, запавольваючы тэмп... Не, не кашчунна выглядае гэтая сцэна і ўражання нетактоўнасці не выклікае: аўтар лібрэта і пастаноўшчык Валянцін Елізар'еў, канечне ж, ведаў, што "падстаўляецца", калі ўключаў у склад удзельнікаў сцэнічнага дзейства і гэты персанаж — а як без яго абысціся, хто скажа? Дый каму ўдавалася пры пастаноўках або пры экранізацыях, скажам, рамана "Майстар і Маргарыта", паказаць уцялеснены вобраз Таго, хто даў імя нашай цывілізацыі і аб'яднаў ёю свет?

Наступная сцэна — хрышчэнне Уладзімірам Старажытнай Русі — вяртае балету яго першапачатковы рытм. Імпульсіўны пратэст у першае імгненне выклікае бізун, які Ганна ўкладае ў руку Уладзіміра. І хрысціцца ён сам з бізуном у руцэ, і народ заганяюць у раку хрысціцца ягоныя блазны — апрычнікі з нагайкамі, гвалтам. І не адразу разумееш, не адразу згадваеш, што такая наша гісторыя, такі лёс: усё самае важнае — і прыняцце веры хрысціянскай, што вызначыла шляхі развіцця жыцця нашага на тысячагоддзе наперад, і наступнае аб'яднанне княстваў — не абыходзілася без удару бізуна. Гэткі ўжо гістарычны ланцужок: князь, цар, імператар... Значыцца, меў рацыю пастаноўшчык гістарычнага балета — інакш быць не магло.



І зноў мяняецца тэмпарытм спектакля і ягоная танальнасць. На апусцелай сцэне спіць князь Уладзімір, і Рагнеда нейкімі ненатуральнымі, квадратнымі, па-егіпецку выкручанымі рухамі рук узнімае і апускае кінжал. Балетмайстар падобны да скульптара, ён лепіць пластыку чалавечага цела, але не ў статыцы, а ў дынаміцы. "Егіпецкія" рухі рук Рагнеды, тых самых, што біліся трапятлівымі лебедзямі, калі намагалася яна за бацькамі ўратавацца ад Уладзіміра (1-я дзея), пераконваюць зрокава, як супраціўляецца ўся ейная сутнасць таму, што яна задумала, калі вырашыла кінжалам закалоць князя. І малалетні сын, сведка гэтага, улагоджвае бацьку, які прачнуўся і па першым унутраным сігнале — "забіць!" — кідаецца на Рагнеду. Той, маланкавападобны, з 1-й дзеі, — забіў бы. Але прысутнасць уласнага дзіцяці і яшчэ, мабыць, прысутнасць у свядомасці Таго пакутніка на крыжы, што гэтак высока ўзнесены, — змякчае князя, ён толькі выганяе Рагнеду з сынам, ад граху далей.

Ёсць і яшчэ адна ўражлівая сцэна — заключная. Тут неабходна ўспомніць адну з галоўных дзейных асоб — першага жаніха Рагнеды Яраполка (Уладзімір Далгіх), асляпленага па загаду брата свайго, Уладзіміра. Яраполк з'яўляецца як сляпы паломнік і візантыйскі манах. Дуэт з Рагнедай, які ёсць чыстая метафара, з дапамогаю якой выяўляецца, што яны з Рагнедай кахалі адно аднаго ўсё жыццё, Уладзімір не можа сцярпець — кідаецца на брата з кінжалам, каб нават памяць пра яго забіць. Падаюць побач усе трое. Але дзіця заклікае да пакаяння і прымірэння. Як кульмінацыя **харэаграфічнага твора** гучыць хор — пакаянны песняспеў, гучанне якога набірае моцы.

Тое, што не магло вырашыцца танцам, падхапіў голас, як выслабанены ў пакутах духоўны пачатак, як асабісты зварот да Бога, як позірк, ад зямлі да неба ўзняты. Спеў гэты, строгі ды аскетычны, разраджае атмасферу спектакля, занадта густую ад страсцей. О, як нялёгка гэтаму Уладзіміру прыйсці да пакаяння: для яго гэта раўназначна прызнаць сябе пераможаным. Толькі пры самым канцы балета, літаральна перад тым, як захінецца заслона, пачынае ён разумець, што самая дарагая перамога — перамога над сваімі асабістымі страсцямі.

Новы спектакль, прэм'ера

● **Помста Уладзіміра.**



● І прыйшла вера візантыйская...

● Хрышчэнне Русі.

● Прэм'ера!..





якога не выпадкова прыпала на пятую гадавіну Незалежнасці, вельмі моцны, жорсткі, мужчынскі. У ім, як мне здаецца, шчасліва супалі гістарычны матэрыял, пакладзены ў аснову сюжэта, талент і памкненні балетмайстра-драматурга Валянціна Елізар'ева і музычнае мысленне Андрэя Мдзівані.

Метафарычны канфлікт, трагічную напружанасць паміж Рагнедай і Уладзімірам можна "прачытаць" і як спрадвечную супярэчнасць мужчынскага і жаночага пачаткаў, іх непазбежны "фатальны паядынак". Можна ўбачыць у балеце і праявобраз стасункаў паміж будучымі ментальнасцямі Расіі і Беларусі, прычым натуральна, — позіркам з Беларусі, што можа ў кагосьці выклікаць і пэўную нязгоду, але гэта наша гісторыя. І калі Уладзіміра ў вогненным плашчы можна ўспрымаць парознаму (на мой недасведчаны погляд, ён усё ж непераможна прывабны), дык Рагнеда ў белым, ціхмяная і непахісная, безумоўна "прачытваецца" як метафарычнае ўвасабленне Беларусі, яе ментальнасці, яе душы.

Узровень духоўных запатрабаванняў аўтара-балетмайстра, ягоны талент дазваляе — не, прымушае яго ўмешвацца ў самыя гарачыя праблемы сучаснасці, намагаючыся зразумець: хто мы і адкуль.

На жаль, за межамі маіх нататкаў засталася размова пра музыку, пра сцэнічнае афармленне, касцюмы... Адно магу сказаць: балет — цудоўны.

**Любоў ТУРБІНА.**
**Фота**
**Віктара СТРАЛКОЎСКАГА.**

# Фотазгадкі

# ДЗВЕ АСОБЫ — ЯК ДЗВЕ ЭПОХІ









● Андрэй Макаёнак у 50-я гады. (246-1-42, л. 8).

● Андрэй Макаёнак (справа) са старэйшымі акцёрамі-купалаўцамі Ірынай Ждановіч і Барысам Платонавым. Здымак 1962 года. (220-1-178, л. 6).

● Такім быў Юрый Семяняка ў 50-я гады. (169-1-66, л. 1).

● Фота 80-х: Юрый Семяняка з кампазітарамі Людмілай Шлег і Валерыем Івановым. (Ф. 198, неапр.).

Аматараў разглядаць старыя фотаздымкі не так ужо і мала. А калі яшчэ на фота — знаныя асобы!.. Людзі ў гадах затрымліваюць позірк на знаёмых тварах, успамінаюць, хвалююцца. Маладзейшыя з цікаўнасцю шукаюць у дакументальных дэталях рысы эпохі, якую ім давялося або назіраць праз вэлюм дзяцінства, або ўжо спасцігаць паводле чыіхсьці ўспамінаў, фільмаў, кніжак...

Вось і гэтыя фатаграфіі не абміне ўвагай нават выпадковы чытач. Бо на іх — творчыя самародкі, індывідуумы, кожны з якіх пражыў (ствaрыў!) сваю эпоху ў мастацтве, пакінуўшы адметны след у гісторыі беларускай культуры. Угледзьцеся: у гэтых здымках — прыцягальнасць Асобы, прыцягальнасць Эпохі... Зрэшты, не будзем сёння злоўжываць словамі, хаця нагода для згадак і разваг ёсць.

Ёсць што ўспомніць-расказаць пра народнага пісьменніка Беларусі Андрэя Макаёнка — прыроджанага драматурга, назіральнага сатырыка, дасціпнага жыццялюба, суровага абаронцу Праўды і Сумленнасці. Яму споўнілася б 75. І свой юбілей, які так удала (невытлумачальная драматургія жыцця!) супаў з 75-годдзем тэатра імя Янкі Купалы, Андрэй Ягоравіч мог бы па-макаёнкаўску бліскуча адзначыць сёлетняй восенню разам са святам улюбёных артыстаў-купалаўцаў...

Ёсць што ўспомніць-расказаць пра народнага артыста Беларусі Юрыя Семяняку — прыроджанага меладыста, кампазітара-лірыка і крышачку драматурга (пісаў для музычнай сцэны!), рыцара песні, шчырага памочніка рупліўцаў самадзейнага мастацтва, прынцыповага радцу — на працягу многіх гадоў — рэдкалегіі нашага часопіса. У лістападзе Юрыю Уладзіміравічу было б 70...

Давайце яшчэ раз угледзімся ў здымкі, знойдзеныя ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Для большасці з нас гэта невядомыя "спыненыя імгненні" жыцця хрэстаматыйна вядомых творцаў. Фотаімгненні нашай гісторыі. Нашай памяці...

**С.БЕРАСЦЕНЬ.**

*Літаратурная пародыя*

# СУСТРЭЧА З ЦАРЭЎНАЙ

*— Уладзімір ЯГОЎДЗІК —*

Раскажу нядаўна ўспомненую гісторыю. Гэта быў сон — не сон, але і явай катэгарычна не назаву. Толькі адно бясспрэчна: царэўну бачыў увачавідкі.

А было так. Праставаў я праз лес. Неўзабаве ён як бы выпхнуў мяне на лугавое раздолле. Нада мной плавілася ў вышыні сонца. Нясмелы ветрык не адважваўся парушаць спакою. Зямля задыхалася зелянінай. Густая духмяная цяплынь разгойдвалася на вясёлых сонечных арэлях. Дыхалася на ўсе грудзі, лёгка і свабодна. Я падумаў пра Вышыню і адчуў яе. Затым прамільгнуў успамін пра Далячынь, і яна раскінулася перад маімі вачамі. Пасля ўсю істоту ахапіў неразгаданы смутак збуялага чэрвеньскага лугу-сенажаці, а яму на змену прыйшла нястрымная радасць светла-зялёнага прастору, бэзава-малінавых азёр і павольнаплынных рэк. Бухматыя кусты і духмяна-салодкі травастой стварaлі казачнае відовішча і райскую гармонію. У такія хвіліны адчуваеш высокую лёгкасць і далёкую блізкасць, добрую ласку і ласкавую дабрыню. Я крочыў святочна-аздоблены, аж надышло адчуванне бязважкай палётнасці.

І вось на вузкай — у адзін след — сцежцы паказалася яна, таямнічая і неразгаданая. Над разумнаю галоўкаю на каштанавых валасах зіхацела царская карона. Яе блакітна-васільковыя ўсмешлівыя вочы глядзелі загадкава і прызыўна. Прынадныя вусны, здаецца, праглі нечаканых салодкіх пацалункаў. Цёмна-зялёны расшпілены жакецік як нельга лепш пасаваў да колеру валасоў. Зелянкавая спаднічка імкнулася затуліць прыгожыя акруглыя калені. Але гэта ёй не ўдавалася. І калені клікалі да сябе неадольна і вабна. Цеснаватая блузка вырысоўвала тугія кулачкі грудзей.

Царэўна спыняецца перада мной. З тахканнем у сэрцы спрабую знайсці слова, адзінае і непаўторнае. Але яно дзесьці згубілася. Таму бяру яе моўчкі за руку і вяду да ракі. Яна не ўпарціцца, наадварот, ідзе лёгка і паслухмяна. Мы прэнтка знімаем апраткі і кладзёмся на добра прагрэты вылежны пясочак. З ёй добра, быццам мы дружбакавалі ад першага класа.

Тут мяне нібы прарвала. Я не прыдумваў адмысловых слоў. Яны сыпаліся з мяне, як той пясчуга. Маладое захмялелае шчасце апавіло мяне з галавы да ног. Я заранёў праяснеў ад радасці. Адразу стрэліла ў голаў: завалодаць яе вуснамі. Як прыпылены лаўлю жаданыя губы царэўны сваімі. Пасля гляджу ў вочы: гняўлівасці ні кроплі. Больш таго, на прывабным тварыку заблукала завязь нясмелай усмешкі. Цалую спелае зернетка радзімкі на шыі. Царэўна падатлівая, ручная, не прытварака.

Раптам вялікая жаўтаватая хмарыска затуліла сонца. Трапяткія сінявата-калючыя маланкі прарэзвалі яе жудлівае цела. Вогненную маланку пярун устрыгнуў у блізкі лес. Пагрымы навальніцы зліліся ў несціханы гул. Звяглівa загалёстрыў вецер. Дождж абрынуўся суцэльнай сцяной. Я падскочыў агаломшаны. Нешта плямкнуў губамі і сам сябе не пачуў. Сцяўшыся і шкадліва ўздыхнуўшы, азірнуўся. Царэўны нідзе не было. Зрабілася непамысна, хацелася крычма крычаць. На душы заскрэблі кошкі. Мокры да апошняй ніткі і якісь спруцянелы, ламануў колькі сілы наўпрасткі.

Не памятаю, як дабрэндаў да вёскі. Дажджыска перастаў. Быў позні вечар. Буйнатварая поўня здзекліва пасміхалася з вышыні.

З той пары не толькі царэўны, але нават самай занядбанай князёўны ці графінёўны я ніколі і нідзе не сустракаў.

**Георгій ЮРЧАНКА.**

## Жартоўкі з народнай кладоўкі

— Дарагі, ці не дапаможаш мне вымыць посуд?
— У мяне сёння быў цяжкі дзень і я вельмі стаміўся.
— Я хацела толькі праверыць цябе, любы: посуд даўно памыты.
— Ці ж нельга пажартаваць? Я з ахвотай дапамог бы табе, каханая.

ххх

Суддзя:
— Чаму вы зрабілі несапраўдныя грошы?
Падсудны:
— Як чаму?! Бо сапраўдныя рабіць яшчэ не навучыўся.

ххх

Размаўляюць дзве сакратар-машыністкі.
— Які жах — гэта пішучая машынка!
— Чаму ты так лічыш?
— Калі не працуеш, усім адразу чуваць.

ххх

Жонка — мужу, які сядзіць за рулём:
— Уключай сігнал павароту! Тармазі! Ды не спыняйся так рэзка!
— Не лямантуй! Твой клопат — усміхацца міліцыянерам.

ххх

Размаўляюць каляжанкі:
— Каб пахудзець, доктар параіў мне сесці на часночную дыету.
— Ну і колькі ж ты страціла вагі?
— Ты лепш спытай, колькі я страціла сяброваk.

**Сабраў А.МІХАСЁНАК.**

## ЦУГЦВАНГ

Пагадзіцеся, цяжкое для вымаўлення слова, але сэнс яго добра ведаюць знаўцы шашачнай гульні. Бо становішча на дошцы, што тоіцца пад гэтым тэрмінам, звычайна адыгрывае парадаксальную і нават вырашальную ролю ў гульні.



Пазнаёмцеся з дыяграмай.

**Ход белых.**

Да гэтага становішча, падобна, імкнуліся абодва бакі, але ацанілі яго па-рознаму. Больш дальнабачнымі аказаліся белыя, якія якраз і ўлічылі маючы адбыцца цугцванг. У партыі было: 1. fe3 de1 2. fe5!! d:d2 3. gf2! e:g3 4. h:f4. Што атрымалася? Чорныя — у адным кроку ад дамачнага поля, за імі — чарга ходу і лішняя шашка, але... яны прайграюць. І прычына пройгрышу — цугцванг, г.зн. становішча, калі адзін з бакоў мусіць рабіць ход і кожны з іх — нявыгадны.

Прааналізуйце пазіцыю і пераканайцеся ў гэтым самі.

*Прыказкі аб выхаванні*

# ...ЧАЛАВЕКАМ БЫЦЬ

- Хто бацькоў не слухае, той у пальцы дзьмухае.
- Каб табе, хлопча, ні панам, ні капітанам, а чалавекам быць.
- Бацька і маці ад Бога ў хаце: хто іх зневажае, дабра не знае.
- Дзеткі падраслі, хату растраслі.
- Хто бацьку шануе, той і дзецям добрую долю гатуе.
- Дзе сыноў лава, там бацьку слава, дзе дачок лава, там матцы слава.
- Не спяшайся, хлопча, вучыцца страляць, а ўмей сеяць, веяць, каваць і дзяцей гадаваць.

**Алесь БЯРЖЫНСКІ.**

*Мікола ВЯРШЫНІН*

## ГАНАРЫСТЫ МУХАМОР

(Байка)

Вось вырас Мухамор, высока змог узняцца.
Чырвоны ўвесь, у белых плямках быў на шапцы.
І здзекавацца стаў над іншымі Грыбамі:
— Убраннем я магу хваліцца перад вамі!

Лісічка — рыжая, Грузд чорны ёсць ці белы.
А Баравік — такі нязграбны і няўмелы.
А Падасінавік — стаіць як быццам моцна,
Але на ўсіх на вас глядзець мне нават млосна.

Вы ўсе павінны мной заўсёды захапляцца.
Высокі я, прыгожы, і медалі на шапцы.
Пераўзысці мяне ніводнага ў вас шанцу.
Ні ў чым не зможаце са мною вы змагацца.

Паслухалі Грыбы другія і сказалі:
— Сусед, а што ў цябе? Атруты — той нямала!
Самаўлюбёнасць, пахвальба — вось гэтага дык многа.
Хто ж звяжацца з табой — працягне ўмомант ногі.

Цябе заўважыць хто — капне нагой, забудзе.
А нас жа любяць і збіраюць вечна людзі.
— Ды што вы! Я відзён здалёку і адразу.
Настоі ёсць мае і лекавыя мазі.

Есць хворы Лось мяне, збіраюць і Бабулі.
Ліпучку вырабяць, каб Мухі ўсе паснулі.
Грыбы яму ў адказ: — Нам не кажы пра лекі.
Яны калі і ёсць, дык толькі для калекі.

Не сябар наш ты, вораг нават і для Мух.
Сыдзі адсюль далей, каб з нас не выйшаў дух.
А шапачка твая — вядома ўсім — падманка.
Дый сам ты, хоць і Грыб, звычайная паганка!

.............................................................................

Калі б то пра Грыбы — пісаць было б не варта.
Ды абы-хто між нас імкнецца ўверх упарта.

## КРЫЖАВАНКА "ЭТНАГРАФІЯ"



По гарызанталі:
7. Старадаўняе земляробчае свята, што спраўлялі пасля заканчэння жніва. 9. Да пачатку 20 ст. аселы або вандроўны народны акцёр. 10. Першапачатковa цэнтр сельскай абшчыны ў Пінскім княстве. 11. Прыстасаванне для мяздрэння і галення скуры. 12. Назва матыкі на Міншчыне. 14. Прылада для капання торфу. 16. Адзіная самка ў пчалінай сям'і. 17. Невялікае рачное судна. 19. Плывучы мост. 20. Дзяржанне ў малатку, долаце, гэблі і іншых прыладах працы. 22. Традыцыйная рыбалоўная прылада. 24. Керамічны дэкаратыўны абліцовачны выраб. 26. У язычніцкай славянскай міфалогіі бажаство вясенняй урадлівасці і плоднасці жанчыны. 28. Верхні грэбень двухсхільнай страхі. 31. Ткацкая прылада для пракідання ўтку ў працэсе ткання. 33. Чалавек, які падзяляе людзей на вышэйшыя і ніжэйшыя расы. 34. Абрад запоін і першага дня вяселля. 35. Тэорыя аб спадчынным здароўі чалавека і шляхах яго паляпшэння.

По вертыкалі:
1. Вясельнае абрадавае печыва. 2. Адзінка вымярэння зямельнай плошчы ў сістэме мер Вялікага княства Літоўскага, роўная 21,36 га. 3. Адно з вызначэнняў народнага інструментальнага ансамбля. 4. Назва плыта даўжынёй 40 — 60 м на Бярэзінскай воднай сістэме. 5. Вясельны абрад першай шлюбнай ночы. 6. Невялікая з ручкай кружка для пітва. 8. Машына з ручным прывадам для веяння абмалочанага збожжа. 9. Прылада для рыхлення глебы і загортвання ў яе насення. 12. Лакальная назва караба з саломы. 13. Мовазнавец, што вывучае паходжанне, структуру і функцыяніраванне ўласных імён і назваў. 15. Танец з некалькіх частак-кален. 16. Назва асобы, якая выходзіць замуж. 18. Пчалярская прылада для акурвання пчол у вуллі. 21. Спецыяліст па вырабу з воўны галаўных убораў, валёнак, лямцу. 23. Мясцовая назва плытагонаў на Беларусі. 25. Традыцыйны танец, які бытуе ў Мінскай, Віцебскай і Гродзенскай абласцях. 27. Назва ўсходнеславянскага, у т.л. і беларускага, насельніцтва ў эпоху сярэднявечча. 29. Назва ўсходнеславянскіх плямён 6 — 7 стст. 30. Старадаўняя гаспадарчая сушыльная пабудова. 32. Сімвал і прадмет культу хрысціянскай рэлігіі. 33. Ток або клуня ў сумежных з Латгаліяй раёнах.

Склаў
**Мікалай ТАРАСІК.**

*Парады маладой гаспадыні*

# ХУТКА І СМАЧНА

Госці — гэта радасць у хату. Вядома, лепш, калі ёсць магчымасць падрыхтавацца да іх сустрэчы загадзя. А калі такой магчымасці няма? Не хвалюйцеся. Можна зрабіць смачныя пачастункі за якія 30 — 40 хвілін. Канешне, калі ваш халадзільнік не зусім пусты... Прапануем некалькі рэцэптаў.

## Пірог да чаю

Пачак сметанковага маргарыну растапіце на слабым агні. Усыпце шклянку цукру і добра перамяшайце. Потым дадайце 200 г смятаны, 2 яйкі, крыху соды, 3 шклянкі мукі і жменьку разынак. Зрабіце цеста.
Бляху засцілайце прамасленай паперай і на яе выкладзіце цеста. Выпякайце ў духоўцы паўгадзіны.

## Рулет "на хуткую руку"

Выліце ў міску бляшанку згушчонкі. Убіце два яйкі. Добра размяшайце, дабаўце палову чайнай лыжкі соды (пагасіце воцатам) і крышку солі. Усыпце шклянку мукі і старанна ўсё ўзбіце. Прамасленую паперу пакладзіце на бляху, на яе выкладзіце цеста ў форме тоўстага бліна. Выпякайце ў духоўцы на слабым агні 25 — 30 хвілін. Калі цеста будзе гатова, намажце блін джэмам ці варэннем. Потым згарніце яго рулетам, асцярожна аддзяляючы ад паперы нажом, калі рулет астыне, пасыпце яго цукрам.

## Батончыкі тварожныя

Тварог добра расцерці, дабавіць муку, яйка, смятану, цукар, соду, соль, усё перамяшаць. Атрыманую масу раскатаць тонкай "каўбаскай", нарэзаць кавалачкамі даўжынёй 8 — 10 см. Смажыць у вялікай колькасці тлушчу да залацістага колеру.
Гатовыя батончыкі пасыпаць цукрам. Падаваць на стол са смятанай, ягадным ці фруктовым кісялём.

**Алесь БАБРОЎ.**

*Паўгадзіны для сябе*

## КАБ ВЫГЛЯДАЦЬ ПРЫВАБНАЙ

Калі чакае брудная работа, напрыклад, з зямлёй, раім пацерці пазногці аб вільготны кавалачак мыла, а потым лішак мыла зняць анучкай ці ваткай. Пасля заканчэння работы мыла з-пад пазногцяў вымываюць.

Скура рук будзе белай і мяккай, калі вы кожны вечар зробіце масаж сумессю гліцэрыны і крухмалу (у роўных прапорцыях).

На папярэдне ачышчаны твар трэба пакласці слой лісця кіслай капусты і паляжаць 15 — 20 хвілін у цёмным памяшканні, расслабіўшы мышцы. Маску змыць халоднай вадой. Яна называецца "парыжская" і валодае выдатным асвяжальным і амаладжвальным дзеяннем. Падыходзіць да любога тыпу скуры.

**Алесь БЯРЖЫНСКІ.**

Фота Віктара **ЖЫЛІНА.**



**Адказы на крыжаванку з №10.**

УРЭШЦЕ...

**БЕЛАРУСЬ**

**ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ШТОМЕСЯЧНІК**

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1930 ГОДА

**№ 11 (683) ЛІСТАПАД 1995**



*Заснавальнікі:*
*Саюз беларускіх пісьменнікаў і працоўны калектыў рэдакцыі.*

**Выдавецтва "Полымя" Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Мінск.**

**Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 19.11.95. Фармат 70 х 108 1/8. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 11,1. Ум. фарба-адб. 12,6. Т. 4.100 экз. Зак. 1228. Камп'ютэрная вёрстка МУП "Нестар": А.Варанецкі, А.Аляксандраў.**

**Кошт у розніцу — 5000 рублёў.**

**Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны для даведак: 33-02-29, 33-20-53. 220013, Мінск, праспект Францыска Скарыны, 79. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".**





Валерый ДАЙНЕКА:

# "Я НЕ ЖЫВУ РУЖОВЫМІ НАДЗЕЯМІ"

**Калі ў 1991 годзе баскетбалісты зборнай Саюза праходзілі тэстыраванне, камп'ютэр напрарочыў яму вясёлыя перспектывы: маўляў, спартсмен здольны стаць іграком экстра-класа... Здаецца, разумная машына не памылілася. І хаця Валерый Дайнека яшчэ далёка не рэалізаваў сябе, ён ужо "заваяваў" сэрцы іспанскіх, расійскіх і, канечне ж, беларускіх балельшчыкаў. Сёння Валерый — наш госць.**



**— У дваццаць з лішім цябе ўключылі кандыдатам у алімпійскую зборную СНД, якая рыхтавалася да Гульняў у Барселоне. Як ты ўспрыняў гэта?**

— Як заахвочванне, напэўна, ці як аванс, але ні ў якім разе не як тое, што павінна было здарыцца. Тое, што Гарастас паверыў у мае здольнасці, дадавала ўпэўненасці. І Селіхаў, які прыйшоў яму на змену, таксама выклікаў мяне на зборы. У гульнях я нават выходзіў у стартавай пяцёрцы. Але ў выніку ў выязны састаў не трапіў. І цяпер нават не ведаю, як растлумачыць гэты парадокс. Хіба толькі тым, што "адчапілі" і Алега Мялешчанку з Казахстана, а ўзялі на нашы месцы расіян.

**— Яшчэ год ты выступаў за РТІ, а пасля з'ехаў у загадкавую Іспанію. Мяняў, на шчасце, не шыла на мыла... Але і ў краіне карыды не затрымаўся, ужо праз год асеўшы ў... валгаградскім "Акварыусе". Хаця адпускаць свайго лідэра іспанцы не хацелі.**

— Я сапраўды адыграў неблагі сезон. І вырашыў, што фінансавыя ўмовы, прапанаваныя мне ў клубе "Эль Монтэ" з Уэльвы, не зусім адпавядаюць майму ўзроўню. Валгаградцы абяцалі суму большую. Праўда, напрыканцы сезона высветлілася, што яна значна "ўсохла".

**— Але ж у Іспаніі на цябе заглядваліся клубы і даволі паважныя?**

— Так, але трэба было чакаць. А ў такім выпадку я наогул мог застацца ні з чым. І, акрамя таго, жонцы Рыме неабходна было закончыць ВНУ. У Іспанію па гэтай прычыне яна са мной паехаць не магла. А разлучацца на цэлы год не хацелася. Вельмі цяжкае выпрабаванне. Такім чынам, грошы — не галоўнае ў выбары клуба.

**— Ты быў першым беларускім іграком, якога ў 1993 годзе запрасілі на летнія зборы навічкоў клуба НБА "Голдэн Стэйт Уорыорз", за які ў той час выступаў Марчуленіс. Аднак скарыстаць гэтую прынадную прапанову ў пэўнай меры не змог...**

— Прызнацца, я і не жыў ружовымі надзеямі, хаця мяне настройвалі на магчымасць кантракта. Але я не верыў, што змагу падысці. Надта ж сілавы, агрэсіўны там баскетбол. Беламу чалавеку замацавацца ў ім вельмі цяжка. Нядзіўна, што нават такі моцны серб, як Даніловіч, які цяпер гуляе ў Італіі, вярнуўся з Амерыкі ні з чым.

**— Пару гадоў табе паралі "паварыцца" ў добрым еўрапейскім катле. Ці ўдалося за гэты час набрацца нахабнасці і сквапнасці?**

— Думаю, так. Калі б я сёння трапіў у тую ж кампанію, пачуваў бы сябе больш упэўнена.

**— Але мару аб НБА, як я разумею, вырашыў адкласці яшчэ як мінімум на год?**






— Наогул пасля таго, як рухнулі алімпійскія спадзяванні, я не буду планаў тыпу: хачу патрапіць туды і туды. Я ведаю, чаго варты, на што здольны. Буду гуляць у еўрапейскіх Кубках, а там, дасць Бог, заўважаць, запросяць.

**— Ты гуляў у абароне. Калі падрос, перакваліфікаваўся ў нападаючага. Часам цябе ставяць цэнтравым. А ў якасці каго табе самому больш падабаецца гуляць?**

— У якасці нападаючага. Люблю гуляць на трэцім нумары, які знаходзіцца наперадзе, кідае з-за 6-метровай лініі. Альбо на чацвёртым — бліжэй да круга, на падборы, хоць гэта больш чарнавая работа.

**— Ты заўсёды надзіва спакойны. Ці ўсё ж у крытычны момант рука можа здрыгануцца?**

— Ды не, здаецца шклянку роўна трымаю. З ліманадам. (Усміхаецца. — А.Д.). А ўвогуле ўсякае, канечне, бывае. Але калі бяру на сябе рашаючы кідок, то веру, што не прамахнуся.

**— За якія б каманды ты ні выступаў, заўсёды быў лідэрам. Гэта стан душы ці вымушаная роля?**

— Так атрымліваецца. І я ўжо проста прывык, што ад мяне чакаюць нейкіх канкрэтных дзеянняў, калі выйшаў на пляцоўку. Мне гэта падабаецца, але магу і падыграць, як, напрыклад, на нядаўнім турніры ў Македоніі. Самамэты абавязкова завяршаць атаку няма. Ад таго, што адпрацаваў у абароне, кагосьці падстрахаваў, прыкрыў, адпасаваў, а хтосьці забіў, і я атрымліваю задавальненне.

**— У сям'і ты таксама лідэр?**

— На даны момант не. Таму што мяне падоўгу не бывае дома. І ўсе клопаты з дачкою, па гаспадарцы кладуцца на плечы Рымы.

**— Валера, а якая падзея мінулага года пакінула асаблівы след у памяці?**

— Матч расійскіх зорак "Захад" — "Усход", у якім я гуляў за другую каманду. Мы, праўда, прайгралі ачкоў 8.

**— А як жа кваліфікацыйны турнір чэмпіяната Еўропы-97 у македонскім горадзе Кавадарці, дзе зборная Беларусі заняла першае месца і дзе ты прызнаны самым карысным іграком?**

— Сёння здаецца, што адыгралі мы яго лёгка. Хаця ўсе матчы былі звышнапружанымі. Тым жа албанцам мы першы тайм прайгралі. І нарвежцаў, ірландцаў з цяжкасцю паставілі на месца. Нам яўна не хапала сыгранасці, нават патрэніравацца выязным саставам не паспелі — позна сабраліся ўсе разам. Да канца турніра разгуляліся і ўжо з гаспадарамі пляцоўкі паказалі прыгожы баскетбол.

**— Твая малодшая сястра Святлана таксама баскетбалістка. Дарэчы, цяпер і яна пачала трэніравацца з цікавасцю і жаданнем. Выяўляецца ўздзеянне брата?**

— Не ведаю. Ніякіх натацый я ёй не чытаю. І прымусіць яе трэніравацца таксама не магу. Яна ўжо сама дарослы чалавек і ведае, што патрэбна, а што не. Я ж як брат магу параіць, як лепш зрабіць у той ці іншай сітуацыі. Не болей.

**— Што для цябе паражэнне ў спорце?**

— Палавіна бяссоннай ночы. Асабліва калі прайгралі ачко на апошняй секундзе ў вельмі важнай сустрэчы.

**— І шмат іх было?**

— На шчасце, не. Сама крыўдна было за пройгрыш "Аўтадарожніку" ў пятым матчы за выхад у 1/4 фіналу расійскай Суперлігі, калі ў дадатковай пяцімінутцы нам проста галаву адарвалі. Настрой быў кашмарны. Выратавала тое, што ноч правялі ў дарозе.

**— Чула, расіяне прапаноўвалі табе памяняць беларускае грамадзянства, але ты адмовіўся?**

— Я не адмовіўся. Проста нельга гэтага рабіць.

**— Гэта значыць — не такі Валерый Дайнека патрыёт, як здаецца?**

— У крайнім выпадку, адразу б не адхіліў бы такую прапанову. Зборная ж Расіі не зборная Беларусі...

**— ...**

У цяперашні час лепшы легіянер мінулагодняга чэмпіяната Расіі Валерый Дайнека гуляе за маскоўскае "Дынама", якое адваявала яго ў іншых зацятых і грашовых "ахвотнікаў" — ЦСКА, "Аўтадарожніка", "Акварыуса"... Думаецца, не апошнюю ролю тут адыграў той фактар, што трэніруе вядомы клуб са жніўня гэтага года галоўны трэнер беларускай нацыянальнай зборнай Аляксандр Барысаў і ў саставе яго выступаюць экс-мінчане Руслан Байдакоў, з якім Валера ў мінулым сезоне абараняў гонар "Акварыуса", і Дзмітрый Кузьмін. Баскетбаліст экстра-класа як і раней застаецца верны сабе, радуючы балельшчыкаў цудоўнай гульнёй. У стартавых матчах чэмпіяната расійскай Суперлігі, ён, як заўсёды, быў цэнтрам увагі шматлікіх залаў...

**Алена ДАНІЛЬЧАНКА.**
**Фота Г.СЯМЁНАВА і У.ІВАНОВА.**

